# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРУ
КЛІЎЛЕНД
ЗША




№9 (19), 1992

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





**Андрэй Карпук**. Распрацоўка макета вокладкі, шрыфтоў рубрыкаў і заставак.
На развароце. Група беларусаў Амэрыкі перад Сафійскім саборам, жнівень 1992 г.
На першай бачынцы вокладкі. **М.Басалыга** Алелька, родапачынальнік князёў слуцкіх
На другой бачынцы вокладкі. Сьвечкі па загінуўшых
На трэцяй бачынцы вокладкі. Гутарка Сяргея Карніловіча і манахіні Еўфрасіньнеўскай царквы
На чацьвёртай бачныцы вокладкі. Каля Амэрыканскай амбасады ў Беларусі. Стаяць у першым радзе (зьлева направа): Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Дэзірэ Мілікан, Алена Лукьянчык, Яўген Лецка, у другім радзе Анатоль Лукьячык, Леанід Казыра.



# РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**ПРЭЗЫДЫЮМ**

*Дарагія суродзічы!*

*Ад імя Рады БН й Беларускіх Вэтэранаў на чужыне шчыра вітаю Вас са сьвяткаваньнем 72-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну, гэтай слаўнай беларускай гістарычнай датай, якую Вы ўпершыню адзначаеце на Бацькаўшчыне.*

*Сярод беларускай палітычнай эміграцыі ўвайшло ў традыцыю ўрачыста адзначаць штогоду Вялікі 25 Сакавік і 27 Лістапада.*

*Ініцыятарамі й арганізатарамі сьвяткаваньняў Слуцкага паўстаньня ў беларускіх асяродках зьяўляюцца пераважна аддзелы Беларускіх Вэтэранаў на чужчыне, для якіх слаўныя случчакі былі й ёсьць сымбалем і прыкладам ахвярнага змаганьня за свой край і народ.*

*«Свабоду ніхто не дае, яе трэба браць», а здабыўшы незалежнасьць, яе трэба бараніць перад загрозамі. Таму нам патрэбнае беларускае нацыянальна-сьвядомае й патрыятычнае войска.*

*Жыве Беларусь!*

*Старшыня Рады БНР*

Язэп Сажыч

*Др. Язэп Сажыч*




*шчыра вітае ўсіх беларусаў зь сьвяткаваньнем 72-х угодкаў Слуцкага паўстаньня, велічнай беларускай гістарычнай датай, якая, нарэшце, вяртаецца на Бацькаўшчыну. Для сьвядамых беларусаў случчакі былі й ёсьць сымбалем ахвярнага змаганьня за сваю Беларусь, яе нацыянальныя ідэі і незалежнасьць.*

*Няхай-жа іх самаадданая любоў да Бацькаўшчыны заўсёды будзе прыкладам для ўсіх беларусаў. Няхай гісторыю іхняга змаганьня ніколі не забудуць нашчадкі.*

*Жыве Беларусь!*

# BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA

724 WEST TANTALLON DRIVE, FORT WASHINGTON, M.D 20744



*Паважаныя суродзічы!*

*Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі шчыра вітае ўдзельнікаў зьезду й усіх патрыётаў Беларусі з 72-мі ўгодкамі слаўнага Слуцкага паўстаньня.*

*У гісторыі вызвольнага руху Беларусі, гэтае паўстаньне было нічым іншым, як збройным чынам Случчыны супроць расейска-бальшавіцкіх акупантаў, Слуцкім фронтам абароны Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Мы, на эміграцыі, заўсёды ўрачыста адзначалі гэтую гістарычную падзею. Мы глыбока верылі, што кроў, пралітая нашымі братамі і сёстрамі Случчыны за сваю Бацькаўшчыну, будзе заўсёды жыць у памяці народу, будзе гарэць нязгаснай паходняй, асьвятляючы шлях да волі нашае любае Беларусі.*

*Вітаем Вас, дарагія суродзічы! Няхай ваш зьезд станецца пачаткам штогодняе ўсебеларускае ўрачыстасьці, штогоднім ўшанаваньнем памяці ўсіх загінуўшых за волю Беларусі!*

*Слава героям Случчыны!*

*Жыве Беларусь!*

*Расьціслаў Завістовіч,*

Расьціслаў Завістовіч

*Старшыня*

# Манэтныя двары на тэрыторыі Беларусі

Валерый Касмылёў

Першыя манэты на тэрыторыі Беларусі зьявіліся дзесьці на пачатку нашай эры. З таго часу беларуская зямля стала месцам сховішча многіх тысяч скарбаў, якія зьяўляюцца красамоўнымі сьведкамі розных гістарычных падзеяў у жыцьці нашай Бацькаўшчыны.

Зь іншага боку, за тысячагадовую гісторыю існаваньня дзяржаўных утварэньняў на беларускай зямлі, у межах сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, не існавала колькі-небудзь трывалай чаканкі манэты.

Разам з тым некалькі разоў зьдзяйсьняліся спробы ўтварэньня манэтных двароў на беларускай зямлі, прычым кожны раз гэта выклікалася нейкімі надзвычайнымі палітычнымі, ваеннымі й эканамічнымі абставінамі.

Упершыню манэтны двор быў створаны і дзейнічаў у 1655-1666 г. у Бярэсьці. У гэты час разгортваліся падзеі расейска-польскай вайны (1654-1667 гг), якая каштавала бакам значных людзкіх, матэрыяльных і фінансавых выдаткаў. Як ў Расеі, так і ў Рэчы Паспалітай назіраліся крызісныя зьявы ў галіне фінансаў. Супрацьлеглыя бакі ў ходзе ваенных дзеяньняў спрабуюць рэфармаваць грашовыя сыстэмы, уводзячы ў абарачэньне медзь, раўняючы яе да больш каштоўнага металу, а таксама чаканкі непаўнацэнных сярэбраных наміналаў. Піянерам у гэтай справе была Расея, якая ў 1654 -1655 г. пусьціла ў абарачэньне вялікую колькасьць новых медных і сярэбраных наміналаў, сярод якіх дамінуючае месца належала меднай капейке. Рускія манэты зьявіліся на тэрыторыі ваенных падзеяў, у тым ліку і ў Беларусі, дзе падключыліся, няхай са значным скрыпам, да грашовага абарачэньня ў рэгіёнах, занятых расейскай арміяй.

22 сакавіка 1659 г. Варшаўскі сейм прымае пастанову «Аб чаканке манэты», у аснову якой былі пакладзены рэкамэндацыі Ціта Ловія Бараціла. Гэтая асоба заслугоўвае таго, каб аб ёй сказаць некалькі падрабязьней.

Італьянец па паходжаньню, ён у Рэчы Паспалітай зьявіўся ў 1641 г. Асоба таленавітая і выдатна адукаваная. Грунтоўна займаўся фізікай, оптыкай, астраноміяй, архітэктурай і г.д. Як спэцыяліст у шэрагу галінаў навуковых ведаў, ён карыстаўся аўтарытэтам сярод эўрапейскай навуковай грамадзкасьці,таму ня дзіўна, што пад час знаходжаньня ў Рэчы Паспалітай, ён атрымаў шляхецтва, дасягнуў высокіх дзяржаўных пасад.

Праэкт Бараціні зводзіўся да таго, каб распачаць масавую эмісію медных солідаў (шэлягаў) з курсам абарачэньня раней чаканіўшыхся білованых, г.зн. тры шэляга на 1 сярэбраны грош.



Шэляг—«барацінка» берасьцейскага манэтнага двара

У рэшце рэшт, пачалася чаканка медных манэт вагой ў 1, 346 г.; рэальны кошт гэтай манэты складаў усяго толькі 15% ад афіцыйна зацьверджанай. Розьніца ў 85% ішла на карысьць дзяржаве, што, па сцьвярджэньню Бараціні, павінна было прынесьці Рэчы Паспалітай паратунак ад фінансавых цяжкасьцей.

Пэўныя абставіны затрымалі адкрыцьцё манэтнага двара ў Бярэсьці да жніўня 1665 г. Тым ня менш, да спыненьня дзейнась-(у верасьні 1666г) на ім пасьпелі выпусьціць каля 247 млн. шэлягаў. Медныя соліды атрымалі мянушку «барацінкі» і каля ста гадоў зьяўляліся вельмі пашыраным наміналам у Рэчы Паспалітай.

Шэляг Берасьцейскага манэтнага двара (як і іншых манэтных двароў Вялікага княства Літоўскага) на аверсе меў выяву караля Яна II Казіміра I легенду на лацінскай мове: «Ян Казімір кароль», на рэверсе дзяржаўны герб Вялікага княства Літоўскага —Пагоня, год чаканкі і легенда, якая акрэсьлівала намінал у дзяржаўную прыналежнасьць манэты.

З падзеямі Паўночнай вайны (1700-1721 гг.) зьвязана дзейнасьць манэтнага двара ў Горадні. Кааліцыя ў складзе Расіі, Даніі і Саксоніі пачала вайну супраць Швэцыі. Саксонскі курфюрст Фрыдрых Аўгуст I зьяўляўся адначасова каралем Рэчы Паспалітай пад імем Аўгуст II. У выніку Рэч Паспалітая таксама паступова аказалася ўцягнутай у вайну. Посьпех не спрыяў Аўгусту II, пасьля шэрагу паражэньняў ён ідзе на падпісаньне тайнага Альтранштадзкага пагадненьня з швэдзкім каралем Карлам XII. Адной з умоваў пагадненьня, была адмова Аўгуста II ад кароны Рэчы Паспалітай на карысьць свайму даўняму саперніку Станіславу Ляшчанскаму. Нягледзячы на гэтыя абставіны, прыхільнік дэтранізаванага Аўгуста II, літоўскі падскарбій Людвіг Пацей наладзіў у Горадні біцьцё пробнага літоўскага траяка (1706 г.) і шасьціграшовіка (1706—1707 гг) з партрэтам Аўгуста II на аверсе манэты, на рэверсе, акрамя гербавай кампазыцыі, зьмяшчаўся ўласны герб Л.Пацея «Вага» й ягоныя ініцыялы «LP», якія сучасьнікам трагічна расшыфроўваліся як «Ludu placz», што значыць «Бяда народу». Гэтая чаканка мела ня столькі фінансавы характар, колькі зьяўлялася палітычна-прапагандысцкай акцыяй.





Шостак, біты ў Горадні

Спроба аднавіць манэтную вытворчасьць адносіцца да 60-х гг. ХУІІ ст., калі апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў-Аўгуст спрабаваў рэанімаваць ледзь дыхаючыя

фінансы краіны. Адным зь плянуемых мерапрыемстваў было адкрыцьцё манэтнага двара ў Горадні (1767 г.). Былі нават зроблены пэўныя практычныя захады: пабудаваны гмах для разьмяшчэньня манэтнага двара, завезена адпаведнае абсталяваньне, машыны... Аднак нарастаючыя крызысныя тэндэнцыі ў краіне не дазволілі зьдзейсьніць намечанае.

Тым ня менш, як лічыць значная колькасьць дасьледчыкаў, манэтны двор запрацаваў некалькі пазьней. Зьвязана гэта зь існаваньнем рэакцыйнай таргавіцкай канфэдэрацыі (красавік 1792-верасень 1783 гг.) якая выступіла супраць пасыўных рэформ чатырохгадовага сейма (1788-1792 гг.) і канстытуцыі 3 травеня 1791 г. Нейкі час штаб-кватэра канфэдэратаў мясьцілася ў Бярэсьці, а затым была пералацыравана ў Горадню. Тут таргавічане прынялі шэраг ўнівэрсалаў, у тым ліку і аб біцьці талернай манэты «ў азнаменаваньне абаронцаў вольнасьці». І сапраўды, у 1793 г. у невялікай колькасьці былі адчаканены талеры Таргавіцкай канфэдэрацыі. Яны ня маюць на сабе звыклых выяваў караля, дзяржаўнага герба.

Абодва бакі манэты займаюць надпісы, маючы я палітычна-прапагандысцкі і дэкляратыўны характар (акрамя даты чаканкі і вызначэньня вагавай нормы манэты), падкрэсьлена рэспубліканскі. Даем пераклады надпісаў з лацінскай мовы арыгінала.

Аверс: «Грамадзянам, любоў якіх да Айчыны ўзняла на абарону польскай вольнасьці, знішчанай змовай 2 травеня 1791 Уваскрасаючая Рэч Паспалітая ў знак удзячнасьці суайчыньнікам, у прыклад нашчадкам».

Рэверс: «Пастановай зьяднанай Рэчы Паспалітай 5 сьнежня 1792 г. у панаваньне Станіслава Аўгуста».





Талер Таргавіцкай канфэдэрацыі

Зьвесткі аб пералічаных манэтных дварах вядомы, у дастаковай ступені, спэцыялістам. У той-жа час амаль невядомым застаецца факт падрыхтоўкі да дзейнасьці манэтнага двара ў Полацку. Больш таго, тыя скупыя зьвесткі, што трапілі ў друк, утрымліваюць памылкі наконт часу падрыхтоўкі дзейнасьці манэтнага двара. Гэта тым больш прыкра, што зьявіліся яны ў такіх, увогуле, вельмі кампэтэнтных і па-

пулярных дасьледчыкаў як І.Г.Спаскі (гл. «Русская монетная система», Л. выд.4, 1970, с.199), В.В. Удзеньнікаў (гл.«Монеты России 1700-1917 М., 1985, с. 450). У выніку,у беларускім пэрыядычным друку Полацкі манэтны двор без усялякага сумненьня аднесены да ліку дзеючых.

У пачатку 1796 г. урад Расіі зьвярнуўся да думкі выкарыстаць карысьць чаканкі легкавеснай меднай манэты. Найвышэйшымі ўказамі ад 26 красавіка і 8 травеня вызначаліся мерапрыемствы па перачаканцы меднай манэты 16-ці рублевай стапы (5,2,1-капеечнікаў, дзеньгі і палушкі) у 32-х рублёвую (10, 4, 2. 1-капеечнікаў дзеньга) ; плянаваўся таксама выпуск новага 5-капеечніка.

Для больш хуткага зьдзяйсьненьня намечанага выpашылі акрамя ўжо існуючых манэтных двароў утварыць часовыя (у тым ліку і ў Полацку). Зацьвердзілі кіраўнікоў двароў, якія падпарадкаваліся мясцовым губэрнатарам. У Полацак былі накіраваныя адпаведныя спэцыялісты— «слесари, установщики и обыскальные»—колькасьцю 20 чалавек. Адначасова ў горад было накіравана абсталяваньне, прылады і матэрыялы для манэтнага двара. Захаваўся падрабязны рэестр, які ўтрымлівае больш за 60 пазыцыяў (на суму больш за 16000 руб.), зь якога даем невялічкую вытрымку:

*«Воротяг железных к печатным станам для 5-копеечников—4*

*Воротяга к стану мелочному—1*

*Ключей—1*

*Ручек —8*

*Сковородка чугунная—1*

*Коромысло весевое с медными чашками— 1*

*Пол литерных 1 сорта—4*

*Микроскопов—6*

*Циркуль с пружиной—1*

*Стали для пунсонов—2 ф.*

*Гирь медных 20 фунтовых — 1*

*і г.д.»*

Манэтны двор атрымаў таскама штэмпель, матачнікі і ўзорныя манэты.Сваю дзейнасьць прадпрыемства павінна было пачаць у кастрычніку 1796 г. Ягоная мяркуемая прадуктыўнасьць — 1 млн. руб. меднай манэты ў год. Зьвесткі аб канкрэтным месцазнаходжаньні манэтнага двара знайсьці не пашчасьціла.

Сьмерць Кацярыны ІІІ (6 лістапада 1796 г.)— спыніла падрыхтоўчую працу. Указам новага манарха—Паўла І ад 11 сьнежня перачаканка была адменена. Полацкі манэтны двор зачынены, спэцыялісты адкліканыя ў Манэтны дэпартамент.

Колькі слоў аб лесе абсталяваньня манэтнага двара. Большасьць рэчаў, хутчэй за ўсё, засталося ў Полацку, што, безумоўна, прычыняла дадатковыя клопаты мясцовым уладам. У верасьні 1810 г. віцебскі грамадзянскі губэрнатар Сумарокаў зьвярнуўся да генерал-ад'ютанта, міністра паліцыі А.Д. Балашова з запытаньнем: што рабіць яму з абсталяваньнем былога манэтнага двара? А.Д. Балашоў, у сваю чаргу, зьвярнуўся да міністра фінансаў.

Зараз нельга дакладна сказаць, чым скончылася справа, бо архівы полацкіх магістрата і думы загінулі пад час вайны 1812 г. Больш позьнія дакумэнты сьведчаць аб тым, што продаж пэўнай колькасьці маёмасьці адбыўся ў 1811 г. Вядома таксама, што яшчэ ў канцы 1818 г. у Полацку знаходзіліся асобныя рэчы, якія належалі былому манэтнаму двару.

Гэтым сьціплым пералікам абмяжоўваецца дагэтуль манэтная вытворчасьць на тэрыторыі Беларусі.

# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў


Міхась Белямук


## *Віцебская вобласьць*

***Віцебск***

Працягам шэрагу гадоў вясной калекцыянеры манэтаў і аздобаў прыглядаліся да абрываў Дзьвіны і Замкавага Ручья. Яны часамі знаходзілі старадаўнія рэчы і манэты. У 1964 г. у абрыве Дзьвіны знайшлі шмат вымытых арабскіх діргемаў, якія людзі разабралі. Адзін дірхем трапіў да прыватнага збору Галькевіча, другі— ў Беларускі дзяржаўны музэй. В.Рабцэвіч агледзеў і аказаўся **абасыдзкім** каліфа **аль-Мамуна** з 823-4 году, чаканены ў **Аране** (сёньняшні Карабах), год і месца чаканкі другога дірхема няведамы.

*Рабцэвіч і Стуканаў...б. 35, №7,* *Поболь.. б.134, № 117*

***Віцебск***

Каля 1973 г. знайшлі арабскія дірхемы. Адзін дірхем **Абасыдаў** правінцыі **Аран** (сучаны Карабах) з 758-767 гг., знаходзіцца ў прыватным зборы Брына, а другі дірхем **Саманідаў** з 966-7 г. **Мансур ібн Нуха** ў прыватным зборы І. Галькевіча. **Нямецкі дэнар** з X ст. таксама ў І. Галькевіча.

*Рабцэвіч і Стуканаў....б. 35, №№14, 15*

***Віцебск***

М.Ткачоў і Л.Калядзінскі ў 1977 г і 1980 гг. праводзілі раскопы на Верхнім замку. У пласьце XII—XIII стст. былі знойдзеныя кавалкі шклянога посуду, размаляваныя золатам.

*Ткачоў і Калядзінскі.. б. 37.*

***Віцебск***

У 1984 г. Т.Бубенка праводзіў архэолягічныя досьледы царквы Дабравешчаньня, каля паўдзённай сьцяны ў пласьце X—XI ст. знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

*Бубенко... б. 339*

***Віцебскі р-н***

У 1956 г. у ваколіцы Віцебска быў знойдзны скарб арабскіх дірхемаў, але колькасьці манэтаў і іх далейшы лёс не пашчасьціла В.Рабцэвічу высьветліць. Адно стала вядомым В.Рабцэвічу, што 2 манэты гэтага скарбу знаходзяцца ў І. Галькевіча, Віцебскага калекцыянера.

*Рабцэвіч і Стуканаў... в. 34, №2.*

***Віцебскі р-н***

Каля 1969 г. быў знойдзены скарб каля Віцебску, але як і ў папярэднім выпадку, манэты разыходзяцца па руках розных людзей, абмінаючы дасьледчыкаў, спэцыялістаў нумізматыкі, прыкладна Валянтына Рабцэвіча. Выпадкова гэтым разам перадалі ў

нумізматычны кабінэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту 2 манэты з знойдзенага скарбу. Адна манэта была арабскім діргемам, другая —ангельскім сярэбраным пены.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Саманідаў** | **Бухара** | **Узбекістан** | **951-2** | **Нух ібн Наср** |
| | | **Англія** | **978-1016** | **Этэльрэд 11** |

Скарб, выглядае, меў розныя манэты, арабска-эўрапейскія X-XI стст.

*Рабцэвіч і Стуканаў... б.35, №11.*

***Віцебская воб.***

У 1821-1823 г. у маёнтку сп-і Багамолец у адлегласьці 50 км ад Віцебску быў знойдзены вялікі скарб арабскіх діргемаў, які важыў 100 фунтаў. Паводля аблічэньняў В.Яніна сярэдняя вага діргема была 2.9 гр. Дапусьцім, што ўсе манэты былі цэлыя ,то было 14100 діргемаў. Большасьць манэт стапілі, частка разыйшлася па людзях, толькі 19 діргемаў трапілі да аптэкара Валькера зь Пернова ў Эстонію, ён купіў іх для сваёй калекцыі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Омаядаў** | Васіт | Ірак | 734-5 | Гішам |
| " | ал-Куфа | Ірак | 745-6 | Марван |

| | | |
|---|---|---|
| **Абасыдаў** | (754-775) | ал—Мансур |
| " | (775-785) | ал-Магді |
| " | (786-785) | ар Рашід |
| " | (809-813) | ал-Амін |
| " | (813-833) | ал-Мамун |
| " | (862-866) | ал-Мустаін |

Абасыдзкія діргемы былі чаканеныя ў **Багдадзе, ал-Басра** — Ірак, **ал-Мухамедыя**—Іран, **Самаркандзе і аш-Шаш** (старая назва Ташкенту)—Узбекістан.

Савельев..б.109, №21, Марков...б.2-3, №9, Янін... б.102, 110, 112.





Добрына: **Абасыдаў**, ал Куфа, 759-760, ал-Мансур

*Віцебская губ.*

Перад 1907 г., мясцовасьць і акалічнасьці знойдзенага скарбу аздобаў ня высьветленыя, але ў кіеўскага калекцыянера Б.Ханенкі знайшліся рэчы, якія былі знойдзеныя ў Віцебскай губ. Яны цяпер знаходзяцца ў Кіеўскім гістарычным музэі.

| | |
|---|---|
| Падвескі сярэбраныя, імітацыя самандзкіх діргемаў Мансура ібн Нуха | 3шт. |
| Нашыйнікі сярэбраныя, арнамэнтаваныя, полыя | 3 шт. |
| Пражкі сярэбраныя, масыўныя, пласьціністыя, арнамэнтаваныя | 2 шт. |
| Падвеска сярэбраная, круглая, пласьціністая | 1шт |

Паводля Г.Карзухінай, скарб аздобаў быў закапаны XI —пачатак XII ст.
Корзухина...97, №47.

*Віцебская губ.*

У Віцебскім краязнаўчым музэі перахоўваюцца манэты, якія, паводля Л.Побаля, былі знойдзеныя перад 1917 г. ў Віцебскай губ.

Рымскі сярэбраны дэнар
Рымскі медзяны фоліс
Побаль [2]... б.135, №119

*Ворань, Лепельскі р-н*

У 1867 г. М.Кусьцінскі раскапаў курган з жаночным пахаваньнем і знайшоў 2 скронёвыя сярэбраныя кальцы. Адно кальцо, аздобленае дзьвюма зярнёнымі пацеркамі, другое, дзьвюма шклозалочанымі пацеркамі. Каля шыі было карало пацерак, паміж імі 16 шклозалочаных. Рэчы паходзяць з XI—XII ст.

Сементовский... б.25-26, Яніцкая... б.131, №5, ЗПГКБ Віц. вобл. №1440

*Воўкавічы, Талачынскі р-н*

У 1971 г. З.Сяргеева на беразе рэчкі Крывая раскапала курган, у якім былі пахаваны мужчына з жанчынай. Жанчына мела сярэбранае скронёвае кальцо.

Сергеева [2]...б.64, ЗПГКБ Віц. вобл. № 2302.

*Вусьце, Полацкі р-н.*

У 1852 г. К.Гаворскі раскапаў 4 курганы, знайшоў 69 шклозаночаных пацерак.
Штыхаў [2]...б.71 Яніцкая... б.133, № 28

*Вядзец, Сененскі р-н.*

У 1893 г. Е.Раманаў у кургане знайшоў арабскі діргем.

**Саманідаў** **аш-Шаш** (Ташкент) Узбекістан **914-5** **Наср ібн Ахмад**

Штыхаў памылкова даў дату 916 г., бо гіждра 302 адпавядае нашаму 914/5 г.
Штыхаў [2] ...б.82

*Гарадзец, Ушацкі р-н*

У 1928 г. І .Сербаў раскапаў курган на беразе возера Існа, знайшоў арабскі діргем.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Саманідаў аш-Шаш** (Ташкент) | Узбекістан | **913-942** | **Наср ібн Ахмад** |

Сербаў... б.206.

*Гарадзец, Шаркаўшчынскі р-н*

Паміж 1945-1985 гг. знайшлі 2 арабскія діргемы з IX—X ст.
Штыхаў[3].... б.82

*Гараўляне, Глыбоцкі р-н*

Восеньню 1965 г. дзеці на ўзараным полі заўважылі бліскучыя мэталёвыя кружочкі, якія паказалі старэйшым асобам. Людзі зьмеркавалі, што гэта старажытныя манэты. Колькасьць выараных манэтаў ня ёсьць вядомая, бо большасьць іх была разабраная людзьмі. У Менск, у Акадэмію Навук прыслалі 405 манэтаў і 7 сярэбраных аздобаў. Скарб складаўся з **арабскіх діргемаў IX—X стст. і заходняэўрапэйскіх дэнарыяў X—XI ст.** Діргемаў было 220, чаканеных дынастыямі **Абасыдаў, Саманідаў, Зіярыдаў**, Дэнарыяў было 185, чаканеныя ў **Англіі, Францыі, Даніі, Нямеччыне, Чэхіі.**

Аздобы былі сярэбраныя: 2 кавалкі чатырохграннага ў сячэньні дроту,
3 кавалкі нарыхтоўкі плясьцінчатага бранзалета,
1 цэлы бранзалет, трохгранны ў сячэньні
1 пражка (зашчэпка).

Рабцэвіч і Стуканаў... б.35, №9, Потін... б.184, № 394, АНГБ...б.53

Заўвага: Мінула 15 год як манэты ляжаць у нумізматычным кабінэце Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту неапісаныя.

*Гараўляне, Глыбоцкі р-н.*

Калі Г.Штыхаў даведаўся пра знойдзеньне скарбу, ён паехаў у Гараўляны і на тым мейсцы, дзе быў знойдзены скарб, дадаткова знайшоў 8 манэтаў і чарапкі ад разьбітага посуду. Г.Штыхаў вырашыў закласьці шуфр. Калі зьняў пласт у 40 сантыметраў паказаўся мацярык, ён хацеў спыніць працу, але рыдлёўка скрыганула аб нешта, і Г.Штыхаў заўважыў невялікі сьвежаадламаны чарапок. Пачаў прыглядацца і пабачыў, што ў пяску тарчыць венчык гаршка, асьцярожна нажом пачаў ачышчаць венчык і аказалася, што гаршчок абложаны трыма камнямі, якія захоўвалі яго ад разбурэньня і павінны былі дапамагчы гаспадару знайсьці ягоны скарб. Паміж першым скрабам і новазнойдзеным адлегласьць была каля 2 м. Гаспадар, выглядала «прывязаў» скарбы адзін да другога, закапаў так, каб, знайшоўшы адзін, змог лёгка адшукаць другі. Пасудзіна крыху падсохла, яе можна было выцягнуць і разгледзіць. Вельмі рэдка архэолягам ўдаецца знайсьці скарб у цэлым посудзе. Адразу Г.Штыхаў пазнаў, што гэта «стары знаёмы», бо такія гаршчкі сустрэліся яму пры раскопках старажытнага Полацку. Яны прыземістыя з даволі шырокай гарлавінай і ўжываліся ў XI ст. Гараўляне ад Полацку меней за 100 км, і ў старажытныя часы гэтая тэрыторыя належала да Полацкага княства.

Зь вялікай асьцярожнасьцю пачаў Г.Штыхаў даставаць рэчы з гаршка. Усе яны былі сярэбраныя, за выключэньнем пацерак, якіх было 31, 30 былі шклозалочаныя.

Зьверху ляжаў прыгожы абруч-нашыйнік, ў тыя старажытныя часы яго называлі

грыўнай. Пад грыўнай -нашыйнікам знаходзіліся 12 вялікіх кольцаў. Гэта тыя самыя скронёвыя кольцы, якія былі распаўсюджаныя сярод жанчын крывічанак. Іх было два камплекты — 6 кольцаў старых, пагнутых, некаторыя паламаныя, а 6 зусім новых. Вельмі прыгожа выглядаў бранзалет, ён быў сплецены па-майстэрску з тонкага сярэбранага дроту. Пярсьцёнак быў зроблены зь сярэбранай пласьціны.

Другую частку скарбу складалі манэты, гэта былі арабскія діргемы, толькі адзін дэнар аказаўся паміж імі. Діргемаў было 119, большасьць іх была абрэзаная або абламаная. Діргемы чаканеныя 5 дынастыямі. У дапаўненьні да сапраўдных діргемаў было 15 падробак пад діргемы, на іх зробленыя арабскія надпісы, скапіраваныя з сапраўдных діргемаў, гэтыя падробленыя діргемы мелі вушка, значыць яны ўжываліся за аздобы-прывескі. Усе знойдзеныя рэчы былі загорнутыя ў льняную тканіну, пакладзеныя ў гаршчок. Паколькі Г.Штыхаў кажа: «Усяго ў гаршку знаходзілася 189 прадметаў», —мы да справаздачы В. Рабцэвіча і А.Стуканава зрабілі папраўку. У іх лік діргемаў 134 «бактэатаў, якія капіруюць діргемы з бронзавымі вушкамі 15 шт.» Складзём разам манэты й аздобы: 1 дэнар, 134 діргемы, 15 брактэатаў-падробак, 15 аздобаў, 31 пацерак, атрымаецца 196 рэчаў. Калі мы ад 134 діргемаў адымем 15 діргемы -падробкі атрымаем 119 сапраўдных діргемаў, цяпер складзм усё разам. Діргемаў 119, падробкаў 15, дэнараў 1, аздобаў 15, пацерак 31, разам 181. Што-ж сталася, чаму недахоп 8 прадметаў? Сталася вось-што. Усхваляваны, Г.Штыхаў, перадаючы знойдзеныя рэчы далучыў 8 діргемаў, знойдзеных ім на мейсцы папярэдняга скрабу, да скарбу знойдзенага ім асабіста і атрымалася 189 рэчаў.

В.Рабцэвіч, коратка інфармуючы пра знойдзеныя діргемы, казаў, што быў діргем дынастыі Абу-Даўдыдаў Саід ібн Саід. Калі расчытаў ён діргем правільна, то гэты діргем унікальны. Мы маем працу вядомых польскіх нумізматаў-арабістаў: М.Чапкевіч, В.Кубяк. Т.Лявіцкі, яны не сустрэлі діргемаў Саід ібн Саід.

| | |
|---|---|
| **Абасідаў** | Найстарэйшы діргем **ал-Мансура** (754-775), і наймаладзейшы діргем **ал-Муктадыда** (892-902), чаканеныя ў горадзе **Багдадзе**. |
| **Саманідаў** | найстарэйшы діргем **Ізмаіл ібн Ахмада** (892-907) і наймаладзейшы діргем **Нух ібн Мансура** (976-997), чаканеныя ў гарадах **Андараба (Іран), Балх (Афганістан), Бухара і Самарканд (Узбекістан), Рашт (Іран), ал-Хутал** (назоў правінцыі, сучасны **Таджыкістан), аш-Шаш** (сучасны Ташкент —**Узбекістан**). |
| **Бувайгідаў** | **Адод ад-даўля абу Шэджаа**, эміра Багдаду (977-982), і **Імад ад-даўля Алі** (934-949) губэрнатара правінцыяў Фарс і Гуджыстан у Іране, іхнія діргемы былі чаканеныя ў **Араджан, ал-Мухамедныя і Шыраз (Іран), Сук ал-Агваз (Ірак)**. |
| **Зіярыдаў** | **Бісутун ібн Вашмігр** (9967-976). Чаканеныя діргемы ў **Джорджане** і **Сары (Іран)**. |
| **Абу Даўдыдаў** | **Саід ібн Саід**, діргем чаканены ў **Андараба** (?), (Іран); |
| **Чэхі** | дэнары **Балеслава III** (999-1002), мейсца чаканкі не пададзена. |

Штыхов Ў... б.95-100, Рабцэвіч і Стуканаў... б.35, №9 і 10

Czapkiewicz, Kubiak, Lewicki, ...б.56.

*Гарыца, Віцебскі р-н..*

У 1880 г. быў знойдзены скарб сасанідзкіх і арабскіх манэтаў. Людзі разабралі манэты. Віцебскі калекцыянер В.Федаровіч з гэтага скарбу ў сваю калекцыю купіў 10 манэтаў, якія паслаў А.Маркаву для агляду і рэгістарцыі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Сасанідаў** | | | 487-497 | Кобата I | 1 ман. |
| **Абасыдаў** | ал-Абасія | Туніс | 782-3 | ал-Магдi | 1 |
| " | Багдад | Ірак | 779-809 | ал-Магдi | 2 |
| " | Багдад | Ірак | ??? | ??? | 1 |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | ??? | ??? | 1 |
| " | Самарканд | Узбекістан | 867 | ал-Мутраз | 1 |
| " | ??? | | ??? | ??? | 2 |
| **Саманідаў** | аш-Шаш | Узбекістан | 906-7 | Ізмаіл ібн Ахмад | 1 |

Марков....б.136. №3.

*Глыбоцкі р-н*

У 1923 г. каля Глыбокага быў знойдзены скраб арабскіх дiргемаў і сярэбраных нашыйнікаў. Скарб важыў каля 2000 грамаў, прыблізна 300 дiргемаў, калі яны былі цэлыя. Манэты й аздобы разабралі людзі, некаторыя манэты бачыў А.Домарадзкі, яны былі з X ст.

Gupieniec....б.146.

*Гомель. Полацкі р-н.*

Побаль расшукаў у архівах Польшчы, што перад 1915 г. К.Змігродзкі перадаў шмат рэчаў, пераважна бронзавых, знойдзеных ім або іншымі асобамі ў Польскі дзяржаўны музэй. Паміж рэчамі былі перасланыя 32 шклозалочаныя пацеркі.

Поболь... б.116, №322

*Глыбочыца. Лепельскі р-н.*

У 1859 г. М.Кусьцінскі на беразе возера Глыбочыца раскапаў некалькі курганаў, у адным з курганоў знайшоў сярэбранае скронёвае кальцо вялікага памеру. У 1951 г. А.Мітрафанаў там-жа раскапаў курган з жаночым пахаваньнем і знайшоў шклозалочаныя пацеркі, колькасьць няведамая.

Алексеев... 292, зн № 117, ЗПГКБ Віцебская воб.1445

*Грошоўка .Лепельскі р-н*

У 1883 г. М.Кусьцінскі раскапаў 8 курганоў, знайшоў 50 шклозалочаных пацеркаў.

Алексеев... б.292. зн № 114, Яніцкая.... б.136, №22.

*Дзісьненскі ўезд*

У 1867 г. дакладна мясцовасьць няведама, але аднатавалі, што селянін прыпадкова выкапаў скарб.Архэолягічная камісія атрымала 135 манэтаў, якія дасьледываў

Б.Тызенгаўзэн і аказалася, што гэта арабскія дзіргемы, цэлых (ц) дзіргемаў было 124, а абломкаў (аб) 11 штук.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Абасыдаў** | Васіт | Ірак | 894-5 | ал-Мутадыд | 1 ц |
| " | Васіт | Ірак | 921-2 | ал-Муктады | 1 ц |
| **Бувайгідаў** | ??? | | 932-950 | Алі ібн Бувейг | 2 ц |
| **Сафарыдаў** | Шыраз | Іран | 890-897 | Амр ібн ал-Лайт | 2 ц |
| **Саманідаў** | Андараба | Іран | ??? | ??? | 1 ц |
| " | Балх | Афганістан | 925-932 | Наср ібн Ахмад | 3ц 1аб |
| " | Самарканд | Узбекістан | 897-907 | Ізмаіл ібн Ахмад | 5 ц |
| " | ??? | | 892-907 | Ізмаіл ібн Ахмад | 1 аб |
| **Саманідаў** | Самарканд | Узбекістан | 910-913 | Ахмад ібн Ізмаіл | 2 ц |
| " | Самарканд | Узбекістан | 918-942 | Наср ібн Ахмад | 19ц, 3аб |
| " | Самарканд | Узбекістан | ??? | ??? | 2 ц |
| | аш-Шаш | Узбекістан | 896-906 | Ізмаіл ібн Ахмад | 11 ц 2аб |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 907-913 | Ахмад ібн Ізмаіл | 6 ц |
| | аш-Шаш | Узбекістан | 913-942 | Наср ібн Ахмад | 47ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 943-4 | Нух ібн Наср | 2 ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | ??? | ??? | 9ц |
| " | ??? | | 913-942 | Наср ібн Ахмад | 5ц 2аб |
| " | ??? | | ??? | ??? | 2аб |
| **Арабскія** | ??? | | ??? | ??? | 6 ц |

Марков... б.1-2, №5.

*Дзісьненскі ўезд*

Л.Побаль інфармуе, што ў Дзісьненскім уезьдзе былі знойдзеныя **рымскія манэты,** але ня кажа, якія, калі і не спасылаецца на крыніцы або вусныя паведамленьні. Мы спакладаемся на ягоны аўтарытэт.

Побаль.... б.162. № 391

*Дзіўная, Шаркаўшчынскі р-н*

У 1981 г. Г.Штыхаў праводзіў раскопы на гарадзішчы якое на правым беразе рэчкі Мюты, ён амаль на мацерыку знайшоў 2 арабскіх дзіргемы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Абасыдаў** | горад-манетніца сьцёртая | 750-1075 г. | 1 аб |
| **Саманідаў** | " " | 819-1005 г. | 1 ц |

Штыхов...б.386. ЗПГКБ Віц. вобл. №2619



Дабрына: Нашыйнік

Добрына: **Абасыдаў**, Аран (Карабах) 806-7, ар-Рашід

*Добрына. Лёзьненскі р-н*

У 1962 г. вясной выаралі 6 арабскіх діргемаў, якія перадалі Віцебскаму абласному музэю. У жніўні музэй атрымаў дадаткова 483 манэты. Калі даведаўся В.Рабцэвіч аб знойдзеньні манэтнага скарбу, паехаў, каб паглядзець мейсца знойдзеных манэт і папрасіць людзей, каб усе манэты зьвярнулі. В.Рабцэвічу пашчасьціла, знайшоў чарапок ад посуду, у якім былі манэты. Там-жа знайшоў некалькі діргемаў. Некатрыя жыхары вёскі адгукнуліся на заклік В.Рабцэвіча і зьвярнулі манэты, скарб пабольшыўся на 38 діргемаў, сярэбраны нашыйнік. Віцебскі музэй атрымаў 527 манэтаў, былі 431 цэлыя діргемы (ц) і 96 абломкаў (аб) рознай вялічыні. Адна манэта была зь дзіркай, мажліва выкарыстоўвалася за аздобу-прывеску. Важным ёсьць, што ў скарабе знайшліся вельмі рэдкія діргемы, несустраканыя, прыкладам, діргемы чаканеныя ў аш-Самія й Ард-ал-Хайр.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Омаядаў** | Васіт | Ірак | 738-742 | Гішам | 9ц |
| " | Васіт | Ірак | 742-3 | Гішам або Валід | 3ц, 2 аб |
| " | Васіт | Ірак | 744 | Валід або Язід | 2ц, 1 аб |
| " | Васіт | Ірак | 745-747 | Марван II | 6ц " |
| | аш-Самія | Ірак | 748-9 | Марван II | 1ц |
| | | | | | |
| **Абасыдаў** | ал—Басра | Ірак | 751-2 | ас-Сафаг | 1ц 1аб |
| " | ал-Куфа | Ірак | 749--754 | ас-Сафаг | 11ц 1аб |
| " | Ардешір Хура | Ірак | 761-2 | ал-Мансур | 1аб |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Абасыдаў́ | Арменія (Дабіл) | | 763-4 | ал-Мансур | | 1аб |
| | Багдад | Ірак | 765-775 | ал-Мансур | 48ц | 9аб |
| " | ал-Басра | Ірак | 753-765 | ал-Мансур | 16ц | 3аб |
| " | ал-Куфа | Ірак | 755-764 | ал-Мансур | 13ц | 1аб |
| | ал-Мухамедыя | Іран | 765-768 | ал-Мансур | 2ц | 3аб |
| " | Рэй (мухамедыя) | Іран | 764-5 | ал-Мансур | 2ц | |
| " | Арменія (Дабіл) | | 777-779 | ал-Магді | 1ц | 1аб |
| | Багдад | Ірак | 775-786 | ал-Магді | 39ц | 12аб |
| " | ал-Басра | Іран | 776-784 | ал-Магді | 4ц | |
| " | Джэй | Іран | 778-9 | ал-Магді | 2ц | |
| " | Іфрыкія (Кайруан) | Туніс | 781-2 | ал-Магді | | 1аб |
| " | Керман (Сіджан) | Іран | 782-784 | ал-Магді | 1ц, | 1аб |
| " | ал-Мухамедыя | Іран | 777-785 | ал-Магді | 11ц, | 2аб |
| " | Багдад | Ірак | 785-6 | ал-Хаді | 1ц | |
| " | Абрашэр (Нісабур) | Іран | 807-8 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | Арменія (Дабіл) | | 806-7 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | Аран (Карабах) | Азэрбайджан | 801-807 | ар-Рашід | 2ц, | 2аб |
| " | Багдад | Ірак | 788-809 | ар-Рашід | 79ц, | 8аб |
| " | Балх | Афганістан | 798-809 | ар-Рашід | 17ц, | 5 аб |
| " | ал-Басра | Ірак | 797-8 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | ал-Гарунія | Сырыя | 786-7 | ар-Рашід | | 1аб |
| " | Зерандж | Іран | 792-808 | ар-Рашід | 8ц | 2аб |
| " | Іфрыкія (Кайруан) | Туніс | 796-7 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | Мерв | Іран | 801-2 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | ал—Мухамедыя | Іран | 786-809 | ар-Рашід | 38ц, | 14аб |
| " | Нісабур | Іран | 808-9 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | Самарканд | Узбекістан | 808-9 | ар-Рашід | 1ц | |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 805-6 | ар-Рашід | 5ц | |
| | Багдад | Ірак | 809-812 | ал-Амін | 8ц | 1аб |
| " | Балх | Афганістан | 808-811 | ал-Амін | 3ц | |
| " | ал-Мухамедыя | Іран | 808-9 | ал-Амін | 1ц | |
| " | Нісабур | Іран | 808-810 | ал-Амін | 2ц | |
| " | Самарканд | Узбекістан | 808-811 | ал-Амін | 4ц | |
| " | Арменія(Дабіл) | | 819-820 | ал-Мамун | 1ц | |
| " | Аран (Карабах) | Азэрбайджан | 811-834 | ал-Мамун | 4 ц, | 2аб |
| " | Багдад | Ірак | 813-4 | ал-Мамун | 21ц, | 6аб |
| " | Балх | Афганістан | 810-816 | ал-Мамун | 4ц, | 1аб |
| " | ал-Басра | Ірак | 813-4 | ал-Мамун | 1ц | |
| " | ал-Басра??? | Ірак | 801-2 | ал-Мамун | | 1аб |
| | Зерандж | Іран | 811-2 | ал-Мамун | 2ц | |
| " | Ісбаган | Іран | 812-824 | ал-Мамун | 9ц, | 2аб |
| " | ал-Куфа | Ірак | 823-4 | ал-Мамун | 1ц | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Абасыдаў | Мадэн Баджунэс | Арменія | 824-5 | ал-Мамун | | 1аб |
| | Мерв | Іран | 814-5 | ал-Мамун | 1ц | |
| " | ал-Мархамедыя | Іран | 811-834 | ал-Мамун | 8ц, | 2аб |
| " | Нісабур | Іран | 810-1 | ал-Мамун | 1ц, | 1аб |
| " | ар-Рафіка | Ірак | 823-4 | ал-Мамун | 1ц | |
| " | Самарканд | Узбекістан | 811-826 | ал-Мамун | 26ц, | 5аб |
| " | ??? | | 813-833 | ал-Мамун | | 1аб |
| | Ард-ал—Хайр | | 837-8 | ал-Му' тасім | 1ц | |
| " | Аран (Карабах) | Азэрбайджан | 835 | ал-Му' тасім | 1ц | |
| " | Багдад | Ірак | 836-840 | ал-Му' тасім | 1ц | 1аб |
| " | Багдад | Ірак | 841-2 | ал-Васік | 1ц | |

Нашыйнік сярэбраны,вагой 200,8 гр. даўжынёй 680 мм, арнамэнтаваны, аналёгіі адсутнічаюць, калі выключым нашыйнікі з Парэчча, Глыбоцкага р-на. В.Рабцэвіч думае, што нашыйнік паўночна-заходняга паходжаньня і дазваляе разглядаць яго як свае асаблівую і найбольш раньнюю форму такога тыпу вытворчасьці ювеліраў IX—X стст.

Працяг у наступным нумары

## Бібліяграфія

Алексеев, Бубенко, ЗПГКБ Віц,. Марков, Поболь, Рабцевіч і Стуканаў, Савельев, Ткачоў і Калядзінкі, Штыхов, Яніцкая гл. «Полацак» №8(18).

1. АНГБ, зб. Археологія, нумізматыка і геральдыка Беларусі, Мн. 1968 г.

2. Корзухина Г.Ф; Русские клады IX—XIII вв. М.—Л. 1954 г.

3. Потин В.М. Древняя Русь и европейские государства в X—XIII вв. Л.1968 г.

4. Рабцевіч В.Н.[2] Два монетно-вещевых клада IX в. из Витебской области. Зб. Нумизматика и эпиграфика вып. У. М. 1965.

5. Сементовский А. Белорусские древности СПб. 1890.

6. Сербаў I. А. Археалагічныя помнікі Вушацкага р-на Полацкай акругі. зб. Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларускай Акадэміі Навук кн. 11, Працы археалагічнай камісіі, т.2, Мн., 1930.

7.Сергеева З.М.[2] Раскопки курганов в Толочинском р-не (БССР), КСИА 1972, № 129.

8. Штыхов Г.В.[2] Археологическая карта Белоруссии. вып. 2.Мн. 1971.

9. Штыхов Г.В.[3] Памятники севера и центра Белоруссии. зб. Белорусская археология. Мн. 1987.

10. Штыхов Г.В.[4] Галасы далёкіх продкаў. Мн.1968.

11.Штыхов Г.В.[5] Охранные раскопки в Белоруссии. АО за 1981 г. М. 1983, б.366.

12. Янин В.Л. Денежно-весовые системы русского средневековья. Домонгольски период. М. 1956 г.

13. Czapkiewicz M., Kubiak W., Lewicki T. Niektore Wiadomosci o monetach . Kufickich z VIII-XI w., K.1956 .

14. Gupieniec A. Nieznane znaleziska monet wczesnosredniowiecznych. zb. Prace i materialyu muzeum archeologicznego. ..w Lodzi. Lodz 1958

# Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі




Язэп Юхо

## *Асноўныя рысы старажытнага права Беларусі*

У старажытнасьці пануючым было звычаёвае права, якое ўяўляе сабой сістэмы няпісаных прававых норм, якія ўзьніклі непасрэдна з грамадзкіх адносінаў, што абапіраліся на агульнапрынятасьць і даўнасьць ужываньня і санкцыяніраваных дзяржавай. Яно складалася і разьвівалася па меры ўзьнікненьня дзяржаўных органаў, якія санкцыяніравалі і падтрымоўвалі зручныя і ўгодлівыя пануючаму клясу прававыя нормы, абгрунтоўваючы іх агульнапрынятасьцю і даўнасьцю ўжываньня. Да таго часу, пакуль права і справядлівасьць былі блізкія па сваім зьмесьце, можна было абыходзіцца адным звычаёвым правам і судзьдзі былі ў стане самі выносіць рашэньні ў адпаведнасьці з правам і справядлівасьцю. Пасьля стварэньня льгот для пануючага кляса й асабліва для кіруючых вярхоў права і справядлівасьць сталі не раўназначныя. Таму запатрабавалася выданьне спэцыяльных законаў, дапаўненьняў і растлумачэньняў да нормаў звычаёвага права, якія, захоўваючы вонкавае падабенства справядлівасьці, па стунасьці ёй супярэчылі, але былі зручныя й угодлівыя клясу эксплуататараў. У стварэньні пісанага права былі зацікаўлены і простыя людзі, бо судзьдзямі і тлумачальнікамі нормаў звычаёвага права часьцей за ўсё выступалі прадстаўнікі пануючага кляса, якія карыстаючыся няпэўнасьцю і непаўнатой звычаёвага права, адвольна вырашалі справы ў сваіх асабістых інтарэсах,таму пісанае права павінна было служыць умацаваньню стабільнасьці прававых нормаў і праваадносін.

Характэрнай рысай старажытнага звычаёвага права была ідэя фармальнага раўнапраўя свабодных грамадзян, поўнага бяспраўя рабоў (халопаў, чэлядзі нявольнай) і фактычных ільгот для пануючага кляса. Усе свабодныя хатнія гаспадары маглі ўдзельнічаць у вырашэньні дзяржаўных справаў на вечавых сходах, валодалі рознай праваздольнасьцю. Аднак, у практычным жыцьці, буйныя землеўласьнікі дабіліся для сябе пэўных пераваг як у частцы заняцьця дзяржаўных пасад, так і ў частцы прысваеньня сабе некаторых даходаў. Асабліва ўзраслі перавагі і правы кіруючых вярхоў у пэрыяд станаўленьня й умацаваньня фэўдальных адносінаў. У сувязі з чым і звычаёвае права стала замацоўваць праваадносіны, зручныя клясу фэўдалаў. Гэтая дваістасьць звычаёвага права атрымала адлюстраваньне ў розных помніках пісанага права, такіх як Русская Правда, дагавор 1229 г.,у граматах Полацкай і Віцебскай зямель. Другой асаблівасьцю звычаёвага права была яго разьяднанасьць. У кожнай дзяржаве-княстве дзейнічала сваё мясцовае звычаёвае права. У Беларусі разьяднанасьць права асобных тэрыторыяў захоўвалася аж да ХУІ ст. Трэцяй асаблівасьцю звычаёвага права была ідэя яго нязьменнасьці, кансэрватызм прававых нормаў, што ў значнай ступэні абмяжоўвала заканадаўчую дзейнасьць князя і веча. Нават у ХУ—ХУІ ст. урад абяцаў

даўніны не парушаць і новых парадкаў ня ўводзіць. Пісанае права напачатку не адмяняла нормаў звычаёвага права, а толькі дапаўняла яго прывілеямі пануючаму клясу й яго ўніфікавала, надавала яму агульнадзяржаўны характар. Ва ўсіх старажытных помніках пісанага права асноўны зьмест складалі нормы, узятыя са звычаёвага права. Спалучэньне старых нормаў звычаёвага права і новай праватворчасьці асабліва выразна відаць ў Русской Правде, Судзебніку 1468 г. і ў Статуце 1529 г.

Найбольш старажытнымі помнікамі пісанага права ў Беларусі былі граматы, якія датычылі адносін Полацка і Віцебска з Рыгай і нямецкімі купцамі, а таксама дагаворы 1229, 1264 і1338 гг.

З гэтых грамат і дагавораў відаць, што ў XIII—XIУ ст. існавалі ўстойлівыя гандлёвыя і дыпляматычныя адносіны паміж беларускімі і нямецкімі купцамі, заснаваныя на раўнапраўных адносінах. Гэтыя акты служаць каштоўнымі крыніцамі пры вывучэньні старажытнага права, бо бакі, якія дамаўляліся, знаходзіліся прыкладна на адным узроўні эканамічнага і культурнага разьвіцьця. Кожны бок уносіў у дагаворы нормы свайго мясцовага звычаёвага права. Дагавор 1229 г. быў заключаны паміж Смаленскім, Віцебскім і Полацкім княствамі з Рыгай і Гоцкім берагам. Галоўнае прызначэньне гэтага дагавору заключалася ў замацаваньні прававых норм, якія забясьпечвалі выршальныя адносіны паміж заходня-і ўсходня эўрапейскімі народамі на аснове ўзаемнасьці і раўнапраўя. У дагаворы прадугледжвалася зацьвярджэньне мірных адносінаў, вызначаўся аб'ём адказнасьці за крымінальныя злачынствы, парадак і чарговасьць спагнаньня доўгу, парадак судаводзтва.

Разьвіцьцё і ўмацаваньне фэўдальных адносін атрымала адлюстраваньне ў нормах грамадзянскага і крымінальнага права. У першую чаргу гэта адбілася на ўстанаўленьні рознай правздольнасьці простых людзей і фэўдалаў. Найбольш поўнай праваздольнасьцю валодалі князі, баяры, («лепшыя», «пярэднія», мужы) і вышэйшыя слаі духавенства. Яны маглі распараджацца маёнткамі, якія належалі ім, учыняць розныя грамадзянска-прававыя зьдзелкі, мець залежных ад сябе людзей і халопаў. Меншай праваздольнасьцю валодалі свабодныя людзі, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасьці ад буйных землеўладальнікаў. Яшчэ больш была абмежавана праваздольнасьць фэўдальна-залежных сялян. Халопы (чэлядзь нявольная) валодалі зусім нязначнай праваздольнасьцю. Яны ня мелі права валодаць нерухомай уласнасьцю, не маглі выступаць у судзе. У залежнасьці ад клясавай прыналежнасьці пацярпеўшага і злачынцы ўстанаўлівалася і розная крымінальная адказнасьць. У сувязі з тым, што выяўленьне і дастаўка злачынцы ў суд, як правіла, павінны былі ажыцьцяўляцца самім пацярпеўшым або яго блізкім, таму злачынства, учыненае багатай і уплывовай асобай супраць беднага чалавека, заставалася, як правіла, беспакараным, калі бедны чалавек, у сваю чаргу ня меў моцнага апекуна. Устанаўлівалася больш высокая адказнасьць за злачынствы, накіраваныя супраць асоб, якія належаць да пануючага кляса. Напрыклад, у дагаворы 1229 г. прадугледжвалася, што за забойства свабоднага чалавека з вінаватага спаганялася 10 грыўнаў серабра, за папа альбо пасла 20 грыўнаў, а за халопа 1 грыўна серабра. У наступным заканадаўстве такая градацыя атрымала яшчэ большае адлюстраваньне.

Асноўнымі відамі пакараньня былі наёмасныя спагнаньні, выдача злачынцы пацярпеўшаму, а за найбольш цяжкія злачынствы злачынца і яго сям'я падлягалі расправе і рабаваньню.

З разьвіцьцём фэўдальных адносін, і асабліва з распаўсюджваньнем хрысьціянства, адбыліся некаторыя зьмяненьні ў сямейным праве. Духавенства дабівалася ўстанаўленьня царкоўнай формы шлюбу з абавязковым вянчаньнем у царкве, устанаўленьнем права атрыманьня ў спадчыну толькі дзецям ад бацькоў, якія знаходзіліся ў царкоўным шлюбе. Для сапраўднасьці шлюбу ў дахрысьціянскі пэрыяд дастаткова было згоды бацькоў на шлюб і ўчыненьне вясельля. Абрад вясельля складаўся з выкананьня пэўных магічных абрадаў (расплятаньня касы нявесты, разуваньня жаніха, саджаньня на кажухі і інш), а таксама частаваньня прысутных, песень і танцаў. Усё гэта было забаронена духавенствам. Таму старажытны манах-летапісец і запісаў, што ў радзімічаў «*браки не бывают, но сходятся меж сел на игрища, плясание и вся песни, и тут уводили себе жен, кто с которою зговорился*»[1] З гэтага паведамленьня некаторымі дасьледчыкамі рабілася выснова, што ў старажытнасьці ў славянскіх народаў шлюбаў не было, а жонак выкрадалі. Такая выснова зьяўляецца памылковай, бо з гэтага паведамленьня відаць, што паміж жаніхом і нявестай існавала папярэдняя змова, што выключае ўжо абвінавачваньне ў выкраданьні. Акрамя таго, ня менш стара даўнім зьяўляецца і звычай надзяленьня нявесты пасагам, які яна прыносіла ў дом жаніха. Наяўнасьць пасага сьведчыць аб тым, што шлюб заключаўся ня толькі па змове бакоў, але і са згоды іх бацькоў. Асабістыя адносіны мужа і жонкі будаваліся на падпарадкаваньні жонкі мужу. Ён прызнаваўся галавой сям'і, але калі муж ішоў ў сям'ю жонкі ў «прымы», то ўласьнікам гаспадаркі лічылася жонка або яе бацькі. У старажытным праве жанчыны карысталіся значнымі правамі і павагай. За злачынствы, учыненыя супраць жанчыны, вінаваты нёс пакараньне ў падвойным памеры. Строга караліся злачыствы супраць маральнасьці. Так па дагавору 1229 г. пралюбадзейства з чужой жонкай каралася як і забоства ў памеры 10 грыўнаў (арт. 11). Асноўнай формай сям'і ў паганскі пэрыяд сярод простага народу была парная сям'я, сярод пануючага кляса было, як відаць, распаўсюджана і мнагажэнства.

Працяг у наступным нумары

## Бібліяграфія

1.Тацищев В.Н.История Российская, т. 2. М.—Л. 1963, с. 31.



# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытнасьці ліцьвіноў

Паўла Урбан

У Цьверскім летапісе прамільгнула канстатацыя, што ліцьвіны або «літва» належалі да славянскіх плямёнаў: *«... а оть Ляховъ прозвашася Поляне, Ляхове же друзіи Лютици, а иніи Литва, иніи Мозавшене, иніи Поморане».* Як і іншыя славянскія плямёны, ліцьвіны і люцічы, паводля гэтага летапісу, калісьці жылі над Дунаем. Зноў-жа ў Цьверскім летапісе адзначалася: *«А Лутичіи и Тиверичи приседаху кЪ Дунаеви; и бе множество ихъ, седяху по Днестру...и до моря».* [136] Пра тое, што калісьці *«Лютичи и Тиверичи приседаху къ Дунаеви; и бе множество ихъ, седяху по Днестру и до моря»*, была говорка таксама ў Ніканаўскім летапісе.[137]

Сапраўды , у сярэднім цячэньні Дунаю, у рэгіёне ракі Маравы, гарадоў Вены і Браціславы, захаваліся гэткія назвы рэчак: Літава і Літавіца.[138] Ёсьць там яшчэ рака з назвай Ляйта, якая ў 1043 г. была акрэсьленая пагранічнай ракой між Венгрыяй і Сьвяшчэнай Рымскай імпэрыяй. У лацінскай транскрыпцыі гэтая рака Ляйта звалася Літагай. [139]

Зыходзячы з таго факту, што ў старых заходняэўрапейскіх хроніках вільцы-люцічы называліся яшчэ *лейтыцамі,*[140] дык назву гэтай ракі Ляйты або Літагі можна высноўваць ад назвы вось гэтых лейтыцаў.

Дарэчы, дасьледчыкі зьвярнулі ўвагу на той факт, што яшчэ ў XIII ст. дзесьці ў Трансільваніі або далей за Дунаем на Балканскім паўвостраве існавалі: "kenezat Lytwa" і "terra Lytwa", гэта значыць Літоўскае княства і Літоўская зямля.[141]

Такім чынам, гэтыя зьвесткі Цьверскага і Ніканаўскага летапісаў пра тое, што «літва» і люцічы калісьці жылі на Дунае, а зноў люцічы разам зь ціверцамі ад вусьця Дунаю засялялі прычарнаморскія землі і землі абапал Днястра,—зьвесткі гэтыя маюць пад сабой пэўны гістарычны грунт. Напрыклад, у дароўнай грамаце Луцкага і Ўладзімірскага князя на Валыні Любарта Гедымінавіча, якая, магчыма, памылкова была датаваная 8 сьнежнем 1322 г., згадвалася дзесьці ў вярхоі ракі Стыру рэчка Лютыца.[142]

Адным словам, можна меркаваць, што калісьці значная частка вільцаў-люцічаў з поўначы перасялілася на Дунай, скуль зноў-жа пазьней трапіла ў рэгіён ракі Днястра. Ведама, што значная частка і дрыгавічоў перасялілася на Балканы.

У Цьверскім летапісе была гаворка пра «літву» і люцічаў. Ці было гэта выпадковасьцю спалучаць іх разам? Мы тут зьвярнулі ўвагу на тое, што люцічы зваліся яшчэ лейтыцамі, гаворачы пра гэтак званае «рымлянскае» паходжаньне ліцьвіноў, польскі гісторык Ян Длугаш гэтых ліцьвіноў назваў яшчэ *«лютвай».* Ёсьць яшчэ арыгінальныя дакумэнты, якія пацьверджаюць, што Літва магла называцца Лютвой. Маецца на ўвазе перапіска Папы Інакеньція ІУ зь вялікім князем Міндоўгам, Хэлмнскім біскупам Гайдэнрайхам, а таксама зь япіскапамі Ліваніі. Адзначым, што ў 1251 г. ў Рым да Папы Інакеньція ІУ наведалася афіцыйнае пасольства вялікага князя Міндоўга. Такім чынам, там, у Рымскай папскай курыі, павінны былі ведаць, як у тым часе магла

яшчэ называцца Літва. Вось-жа, неўзабаве пасьля прыняцьця гэтага пасольства Папа Інакеньцій IУ накіраваў свае булы вялікаму князю Міндоўгу і гэтаму Хэлмскаму біскупу Гайдэнрайху. Справа тычылася хрышчэньня ліцьвіноў, каранацыі самога Міндоўга каралеўскай каронай, а тыя дзьве булы Папы былі датаваныя 17 ліпенем 1251 г. У гэтых папскіх булах паўтаралася: «Regnum Luthawie"; "Carissimo in Christo filio nostro Mindowi Illustri Regi Luthawie, salutem", "Multa cor nostrum est... super cariussimum in Christi filium nostrum Mindowin Illustrem Luthowie Regem. [142]

Між іншага, у «Аналах каралеўства Франкаў» пад 806 годам згадваўся князь лужыцкіх сербаў на імя Мілідуох, што можа быць адпаведнікам для імя вялікага князя Міндоўга.

Праўда, Папа Інакеньцій IУ ужываў яшчэ і гэткія фармулёўкі: «in totius Lithowie», «Sane de Carissimo in Christo filio nostro Mindowe Illustri Rege Lithovie», што адлюстравалася, напрыклад, у іншай папскай буле, датаванай 15 ліпенем 1251 г., якая была накіраваная прыгадванаму Хэлменскаму біскупу Гайдэнрайху.[143] Аднак, выглядае, і назва Лютва не была вынайдзеная ў Рыме. Прускі храніст Пётра Дузбург пісаў толькі : «Lethowia", "Lethowini", "Vithenus rex Lethowinorum". Цікавай тэрміналёгіяй карыстаўся Генрых Латвійскі, які сваю «Хроніку Лівоніі» напісаў у 1226 г.

"Lethoines" і Lethonia"- гэтак называў Генрых Латвійскі ліцьвіноў і Літву. У іншых старых лацінамоўных хроніках гэтыя ліцьвіны і Літва яшчэ называліся :"Litwini congregato exercitu vastaverunt terram Culmensem", Fuit magna experdicio in Littovia in die Mauricii", "Eodem anno Litwini per cives Rigenses evocati Districtum in Karthus "...[144]

Пра што могуць сьведчыць усе гэтыя варыянты назваў для Літвы й адпаведна для ліцьвіноў? Lethonia і Lethoni, Luthawia і Luthawi, Lethowia, і Lethowini, Littowia, Litwini? Ці ў гэтых варыянтах не прасочваецца трансфармацыя этнічнага найменьня: пераход ад назвы люцічаў да назвы ліцьвіноў?

Вяртаючыся да прыгадванай канстатацыі Цьверскага летапісу наконт таго, што літва-ліцьвіны былі славянскім племям, можна адзначыць, што Цьверскае княства заўсёды мела цесныя кантакты зь Вялікім княствам Літоўскім. Другой жонкай вялікага князя Альгерда была якраз цьверская князёўна Ўльяна. Таксама, напрыклад, у першым Ноўгарадзкім летапісе была гаворка пра тое, што ў 1245 г. на службе ў цьверскіх князёў знаходзіліся князі-ліцьвіны на імя Явід і Эрбэт. Пазьней, ад 1289 г.. цьверскім япіскапам быў Андрэй, сын колішняга Полацкага князя Гердзеня. У даўнейшыя часы летапісы пісаліся звычайна пры дварах і на заказ япіскапаў, архіяпіскапаў і мітрапалітаў. Адсюль ёсьць нейкія падставы меркаваць, што зьвесткі пра тую славянскую «літву» маглі трапіць і ў гэты Цьверскі летапіс ад прыгадванага ліцьвіна й япіскапа Андрэя Гердзенявіча.

У сваім трактаце "De admnistrando impero" бізантыйскі імпэратар Канстанцін Парфірародны, гаворачы пра даньнікаў Кіеўскай Русі, сярод усходнеславянскіх плямёнаў у дзьвюх мясьцінах прыгадаў *лензанінаў або ленцанінаў*. Польскія гісторыкі мяркуюць, што Канстанцін Пафірародны меў на ўвазе польскае племя *«лендзанінаў»* ці *«лендзянаў»*, якое ў гэтым часе магло жыць на ўсходзе ад Віслы паміж рэкамі Вепшам і Санам. Цікава, пра гэткае польскае племя ў гэтым рэгіёне ня было гаворкі ў старых польскіх хроніках. Адпадае, здаецца і дапушчэньне, што тое паведамленьне, Канстанціна. Парфірароднага тычылася «ляхаў», бо палякаў усходнія славяне называлі яшчэ ляхамі. Таму выпадае бліжэй

прыглядзецца да гэтага паведамленьня бізантыйскага імпэратара.

Як мяркуюць дасьледчыкі, свой трактат Канстанцін Парфірародны пісаў паміж 948 і 952 гадамі. Магчыма, пісаў яшчэ і пазьней, бо ён памёр у 959 г. Вось вытрымка: «Аднадрэўкі, якія прыходзяць у Канстантынопаль з вонкавай Русі, ідуць з Ноўгараду, у якім княжыў Сьвятаслаў, сын князя Русі Ігара. Ідуць таксама з гарадоў Смаленску, Любеча, Чарнігава і Вышгораду. Усе яны спускаюцца па рацэ Дняпру і сабіраюцца пад горадам Кіевам, званым яшчэ Самбата. Іхныя (русаў) даньнікі Славяне, што называюцца *Крывічамі і Лензанінамі*, дый іншыя Славяне майструюць аднадрэўкі ў сваіх у горах зімовую пару апрацоўваюць іх, а з надыходам вясны сплаўляюць іх вазёрамі ў Днепр. Гэтай ракою прыходзяць у Кіеў, выцягваюць лодкі на бераг, аснашчаюць іх і прадаюць Русам». [145]

Значыцца, тыя «лензаніны» з гэтага трактату Канстанціна Парфіраროднага знаходзіліся дзесьці на поўнач ад Кіева і жылі якраз побач з крывічамі. Таму, аналізуючы гэтую дый іншыя мясьціны трактату бізантыйскага імпэратара, дзе была гаворка пра іншыя ўсходнеславянскія плямёны, акадэмік .Барыс Рыбакоў прыйшоў да высновы, што пад «ленсанінамі» Канстанцін Парафірародны мог разумець палачанаў або полацкіх крывічоў.[146]

Аднак, можа быць іншае, больш адэкватнае тлумачэньне для назвы таго ўсходнеславянскага племя лензанінаў-ленцанінаў. А гэта, калі мець на ўвазе вільцаў-люцічаў і лютву-ліцьвінаў. Добра ведамая летапісная фармулёўка: «*бе бо. Рогъволодъ пришелъ изъ заморья, имяше власть свою в Полотьске*». У сваім артыкуле «Згадкі старажытных паданьняў» Аляксандр Рогалёў слушна пісаў, што Полацкі князь Рагвалод, бацька князёўны Рагнеды, меў празрыстае славянсаке імя. Аднолькава «прыйшоў» ён з славянскіх краёў дзесьці каля 945 году, прыйшоў адтуль, дзе на паўднёвым узьбярэжжы Балтыйскага мора жылі славянскія палабска-паморскія плямёны.[147]

Але пакуль-што пакінем князя Рагвалода і зьвернемся да племяннога саюзу вільцаў-люцічаў. Саюз гэты, як выглядае, акрэпнуў за часоў нямецкіх каралёў і імпэратараў Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Генрыха I (919-936) і Атона I (936-973). Якраз тады пачалася нямецкая экспаньсія на поўнач, дзе жылі славяне паміж рэкамі Лабай і Одрай. У старых заходняэўрапейскіх хроніках да гэтага саюзу звычайна залічаліся чатыры плямёны: далянчанаў,радараў, хіжанаў і чэразпенянаў. Аднак у саюз вільцаў—люцічаў яшчэ ўваходзілі ўкране, што жылі па рацэ Ўкра і стадаране, цэнтрам якіх быў горад Бранібор (Брандэнбург). Да гэтага саюзу належалі яшчэ ліняне, якія ў лацінскай транскрыпцыі называліся лінонамі. У саюзе вільцаў-люцічаў палітычную перавагу мелі радары, а іхнім культавым цэнтрам быў горад Радагошч.[148]

Нямецкі наступ на палабскіх славянаў пачаўся пасьля 926 г., калі было афармленае на 9 гадоў замірэньне зь мадзярамі - венграмі. Узімку 927-928 г. войска караля Генрыха I здабылі горад Бранібор, а князь стадаранаў Тугамір трапіў у палон. Некаторыя гісторыкі меркавалі, што князь Тугамір паходзіў з дынастыі колішняга князя вільцаў Драгавіта. Далей, саксонскі граф Бернгард шэрагам паходаў падпарадкаваў нямецкаму ўплыву зямлю радараў і землі некаторых іншых плямёнаў саюзу вільцаў-люцічаў. Аднак, калі ў 929 г. кароль Генрых I адправіўся ў паход на Прагу, успыхнула паўстаньне палабскіх славянаў, якое ўзначалілі радары. Справа здушэньня гэтага

паўстаньня была даручаная графам Бернгарду і Тытмару, якія ў верасьні таго-ж 929 г. аблажылі г. Лончын, што ляжаў на правым беразе ракі Лабы ў ейным сярэднім цячэньні. У лацінскай транскрыпцыі яго называлі «Люнькіні» і «Люнцыны», а цяпер гэта горад Ленцэн, які знаходіцца недалёка ад Вітэнбэргу.

Апалчэньне славянскіх плямёнаў, якое пасьпяшыла на выручку, было разьбітае перад горадам пасьля таго, як яно было загнанае ў багністыя мясьціны. Гэта спрычынілася таксама да капітуляцыі абаронцаў гораду, якіх налічвалася 800 чалавек і якіх аднолькава там-жа напаткала сьмерць. Жыхары мясцовасьці, якія шукалі паратунак за мурамі замку гораду ,таксама былі палоненыя і трапілі ў нямецкую няволю.

Чаму атрымалася такая лёгкая перамога? А таму, што немцы зноў кінулі ў бой конных рыцараў, закаваных у жалеза.

Пасьля той перамогі пад Лончынам нямецкая экспансія не спынілася, бо ў 932 г. былі падпарадкаваныя лужыцкія сербы, а ў 934 г. нямецкае панаваньне пашыралася да вусьця Орды, калі была атрыманая перамога над укранамі. Тым ня менш, другое вялікае паўстаньне славянскіх палабска-паморскіх плямёнаў зноў успыхнула ў 936 г. пасьля сьмерці імпэратара Генрыха І. Паўстаньне гэтае зноў узначальвалі радары, і супраць радараў у верасьні і ў кастрычніку 936 г. была скіравана карная экспэдыцыя, якую ўзначальваў сам новаабраны кароль Атон .

Аднак хваляваньні й адкрытыя збройныя сутычкі не спыняліся, тым больш у сувязі з тым, што ў самой Атонскай імпэрыі пачалася тады грамадзянская вайна. Супраць нямецкага засільля ўзбунтаваліся тады і абадрыды-бодрычы, якія засялялі землі далей на захад ад вільцаў—люцічаў.

У тым часе здарыліся дзьве рэчы, неспрыяльныя для палітычнага самавызначэньня і кансалідацыі палабска-паморскіх славянаў. Фронт змаганьня і падпарадкаваньня нямецкаму ўплыву ў 937 г. быў даручаны графу Геру, які цэнтральную сваю сядзібу меў у Паўночнай Турынгіі. Пазьней гэты граф Гера атрымаў тытул маркграфа і ўзначальваў Усходнюю нямецкую пагранічную марку.

Вось-жа нейкім чынам, маўляў, дзеля перамоваў, гэтаму графу Геру ўдалося заманіць у нейкі свой замак 30 князёў, бальшыня якіх былі правадырамі вільцаўлюцічаў. Пасьля добрага пачастунку зь віном, усе яны ўначы былі перабітыя рыцарамі графа Геры. Нямецкі храніст манах Відукінд, які апісаў гэты здрадны эпізод, не паведаміў, у якім годзе гэта здарылася, не называў таксама хоць-бы адно зь імёнаў тых князёў славянскіх палабскапаморскіх плямёнаў, замардаваных баязьліва-трусьлівым спосабам.[149] Аднак можна меркаваць, што тое забойства славянских князёў адбылося перад 940 г. Дарэчы, гэтае меркаваньне высноўваецца з кантэксту паведамленьняў храніста Відукінда. Другім няспрыяльным фактарам была здрада прыгадванага князя стадаранаў Тугаміра. У лацінскіх тэкстах стадаране называліся яшчэ гавелянамі, ад назвы ракі Гавэлі. Князь Тугамір быў падкуплены нямецкім каралеўскім урадам і вызвалены з доўгагадавога палону. Але на сваю зямлю, у горад Бранібор, ён вярнуўся ў якасьці ўцекача, нібы ён сам уцёк з палону. Там ён і быў абраны князем. Другім адзіным прэтэндэнтам на княжы пасад быў сын брата Тугаміра, і гэтага свайго пляменьніка Тугамір забіў. Пасьля гэткага злачыннага ўчынку ўся зямля стадаранаў была перададзеная

пад апеку немцаў, тая здрада князя Тугаміра здарылася ў 941 г

Бібліяграфія

136 Летописный сборник, именуемый Тверскою летописью. ПСРЛ, т.15, М., 1965, с. 18-23.

137 Патриаршая или Никоновская летопись. ПСРЛ' т. 9., М., 1965 с. 5.

138 Кобычев В.П. В поисках прародины славян. М., 1973, с. 57-59.

139 Herimanni Augiensis Chronicon.IN: Quellen (des Mittelalters), Bd. XI, Darmstadt, 1961, pp,676-677.

140 Wolfgang Bruske, Untersuchungen zur Geschichte des Litizenbundes. Munster-Koln, 1955, s. 6

141 Кобычв В.П.Цыт. праца, с. 133, Мікола Ермаловіч, Старажытная Беларусь, Полацкі і Новагародскі перыяды,Мн., 990, с. 19.

142 Грамоти ХУІ ст., №6, с. 20-22.

143 Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae. Edita ab Augustino Theiner. Vol. I, Romae, 1860, Nr. 102, 104, pp. 49-50.

144 Ibidem Nr 101, p.49.

146 Canonici Sambiensis Epitome gestorum Prussie. In SRP, Bd. 1, Leipzig 1861, pp 272-290

145 Contantine Porphyrogenitus. Opus cit pp.56-59

146 Рыбаков Б.А. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982, с. 318-322.

147 Рогалеў А. Загадкі старажытных паданьняў. «Голас Радзімы». Мн, 1991. №20.

148 Kronika Thietmara (Thietmari Merseburgensis episcopi Chronicon). Z tekstu łacińskiego przetłumaczył Marian Zygmunt Jedlicki. Obokt tłumaczenia tekst oryginału. Poznań. Instytut Zachodni, 1953, str 344-351.

149 Widukindi, Res gestae Saxonicae, In: Quellen (des Mittelanters), Bd.VIII. Darmstadt. 1971, pp. 106-107.



# Уласнаручныя паказаньні Езавітава, Канстантына Барысавіча

У Бэрліне, у верасьні 1944 г. доктар Грынкевіч Станіслаў зайшоў да мяне ў пансыён «Беатрык»[1] на Майнеке вул. № 5, і сказаў, што палкоўнік Гамзін, начальнік штаба ўкраінскай гетманскай арганізацыі ў Бэрліне, перадаў яму ад імя гетмана Скарападзкага пажаданьне гетмана пазнаёміцца з прэзыдэнтам Астроўскім. Астроўскага сам Грынкевіч не застаў і таму прасіў мяне перадаць яму аб гэтым пажаданьні, а адказ паведаміць Грынкевічу, які меўся зайсьці да мяне вечарам. Пры гэтым ён падкрэсьліў, што аб гэтай сустрэчы, калі яна адбудзецца, і аб самым пажаданьні гетмана ня трэба нікому гаварыць, так як гетман не жадае, каб аб гэтай сустрэчы ведалі немцы.

Праз гадзіну прыехаў Астроўскі. Ён прапанову гетмана прыняў і папрасіў запрасіць яго да сябе на кватэру.

Вечарам я паведаміў Грынкевічу адказ Астроўскага. *Грынкевіч пайшоў.*

На другі дзень Грынкевіч прыехаў зноў і ў маёй прысутнасьці перадаў Астроўскаму, што гетман лічыць нязручным сустракацца на кватэрах, так як упэўнены, што і за кватэрай Астроўскага ўстаноўленаназіраньне нямецкіх разьведвальных органаў, як устаноўлена яно ўжо здаўна за кватэрай гетмана Скарападскага у Патсдаме (50 км ад Бэрліна). Таму гетман прапаноўвае «выпадкова» сустрэцца ў адным з кафэ на Курфюрстэн-Дом, (на рагу з Іоахім-штрасе) за раньняшняй кавай а 10-й раніцы, калі кафе бывае амаль пустым.

Гетман меўся прыйсьці з двума спутнікамі і прапаноўваў Астроўскаму таксама мець двух спадарожнікаў.

Астроўскі згадзіўся з довадамі гетмана і прапанову ягоную прыняў. Для суправаджэньня яго ў кафэ ён запрасіў мяне і доктара Грынкевіча, сказаў, што прыйдзе ў пансыён «Беатрыкс» каля 9 гадзіны.

На другі дзень, у палове дзесятага раніцы мы ўтрох накіраваліся ў кафэ, дзе ўжо праз 10 хвілінаў выбралі стол у адным з бакавых памяшканьняў і заказалі каву. Адначасна заказалі і некалькі газэт з кіоска, які працаваў пры гэтым кафэ.

Дакладна а 10 гадзіне ў кафэ ўвайшоў Скарападзкі з двума спутнікамі, палкоўнікам Гамзіным і інжынерам Шефановічам (?). Яны накіраваліся да нашага століка. Калі яны пачалі прыбліжацца, Грынкевіч падняўся і падыйшоў да іх, прывітаўся і запрасіў да нашага стала. Так была праведзена гэтая *«выпадковасьць».*

Пасьля ўзаемных адрэкамендаваньняў і новых заказаў, гетман Скарападзкі сказаў, што ўкраінцы, у асаблівасьці гетманаўцы, даўно цікавяцца беларускім пытаньнем, і ён будзе рады, калі гэтае знаёмства будзе падтрымліваацца далей шляхам рэгулярных сустрэч. Затым ён папрасіў Астроўскага назначыць новы дзень і месца для наступнай сустрэчы. Яна была ўмоўлена праз некалькі дзён у маім нумары ў пансыёне «Беатрыкс». Пасьля гэтага, па просьбе Скарападзкага, які сьпяшаўся з назначэньнем новай сустрэчы ў самым пачатку размовы, так як тады столікі вакол яшчэ былі пустымі, і афіцыянт таксама пайшоў рабіць

---

1. Ва ўсіх наступных выпадках Езавітаў піша гатэль «Беатрыкс».—Рэд.

Працяг. Пачатак ў №6(16)-8(18)

заказ — Астроўскі праінфармаваў аб гісторыі стварэньня БЦР, аб II Усебеларускім кангрэсе, а таксама аб пададзеным БЦР нямецкаму ўраду мэмарандуме. Знаёмства з тэкстам было адкладзена да новай сустрэчы.

З свайго боку Скарападзкі расказаў, што ён, як гетман у Нямеччыне, ужо не выступае і ня выступіць, паколькі даўно ўжо падпісаў універсал аб перадачы свайго званьня і правоў на гетманскую булаву Ўкраіны свайму сыну, які пастаянна жыве ў Амэрыцы і мае там многа прыхільнікаў, арганізаваных у «Саюз гетманцаў Украіны». Саюз гэты пабудаваны па вайсковаму ўзору і разьбіты на вайсковыя аб'яднаньні —«курэні» і «сотні», як мужчынскіе, так і жаночыя. Мужчыны маюць зброю для вайсковых практыкаваньняў: вучэбныя вінтоўкі, некалькі пушак і нават два самалёты. Курэні афіцыяльна працуюць як спартовыя арганізацыі пры «Саюзе гетманцаў Украіны». Саюз выдае сваю газэту ў Чыкага, а ягоныя аддзяленьні маюцца ва ўсіх штатах Паўночнай Амэрыкі, у Канадзе, а таксама ў Паўночнай Афрыцы. У саюз уваходзяць ня толькі не грамадзяне-ўкраінцы, але і многія з тых, хто ўжо атрымаў амэрыканскае грамадзянства. На ваенную падрыхтоўку «Союз гетманцаў» зьвяртае асаблівую ўвагу. Так як амэрыканская армія арганізаваная па прынцыпу дабраахвотнасьці, то праходзіць вайсковую падрыхтоўку шляхам абавязковага прызыва няма мажлівасьці. Вайсковыя практыкаваньні ў «курэнях» выконваюць тыя кадры, якія могуць быць у якасьці ўжо падрыхтаваных дабраахвотнікаў, заключаны ва ўкраінскую армію, калі Ўкраіна атрымае сваю тэрыторыю, і калі на яе зможа вярнуцца ўкраінскі ўрад. Удзельнікі «курэняў» праходзяць яшчэ і палітычную падрыхтоўку, якая растлумачвае ім неабходнасьць барацьбы за незалежную Ўкраіну супраць СССР і Польшчы, якія Ўкраіну падзялілі паміж сабой. Галоўнае вастрыё накіраванае ў бок СССР, бо ў яго больш вялікая тэрыторыя, і акрамя таго (СССР-Рэд.) праводзіць непрыемную для ўкраінца-хутараніна калектывізацыю. Колькі людзей прайшлі падрыхтоўку ў «курэнях», гетман не назваў. У якім становішчы гэтая праца знаходзіцца на момант сустрэчы, ён таксама ня мог сказаць, так як пасьля пачатку вайсковых падзеяў паміж США і Нямеччынай інфармацыя перастала паступаць, але мяркуе, што праца працягваецца. Адасобленыя ў асобыя ўкраінскія часьці, украінцы, што дабраахвотна паступілі або былі прызваны ў амэрыканскую армію амэрыканскім урадам, — аб іх інфармацыяў ня мелі. «Курэні» наладжвалі нават публічныя сьвяты і парады, якія пачыналіся і заканчваліся стрэлам з пушкі.

Затым гетман і Астроўскі ўзаемна абмяняліся інфармацыямі аб юрыдычным і фактычным становішчы царкоўных арганізацыяў на Ўкраіне і ў Беларусі, прычым гетман указаў, што значая колькасьць украінскіх праваслаўных цэркваў вядзе ўжо ўсе богаслужбы на ўкраінскай мове. Ёсьць такая царква і ў Бэрліне на Кайзер—Алее,19, якую старанна наведваюць украінцы, якія ў пераважнасьці прыхільнікі гетманскай Украіны.

5 сьнежня 1945 г. Менск.

Гаварылі Скарападзкі і Астроўскі. Абедзьве «сьвіты» толькі зрэдку ўстаўлялі некалькі дапаўняльных або паясьняльных словаў. На гэтым першая сустрэча, якая працягвалася дзьве гадзіны і перайшла з кавы на абед, закончылася.

Другая сустрэча адбылася праз некалькі дзён у маім нумары, у пансыёне «Беатрыкс».

Гетман прыбыў, як і было вызначана, а10-й раніцы. Прысутнічалі тыя-ж асобы, што і пры першай сустрэчы.

Астроўскі прачытаў беларускі мэмарандум БЦР на імя германскага ўраду і падрабязна расказаў аб намаганьнях БЦР умацаваць у Нямеччыне сваё юрыдычнае становішча, каб забясьпечыць сабе мажлівасьць далейшай працы ў якасьці законнага прадставіцельства Беларусі. У мэмарандуме падавалася гісторыя стварэньня БЦР, і рабіўся асаблівы націск на тое, што паўнамоцтвы яе пацьверджаныя II Усебеларускім кангрэсам. Далей гаварылася, што зь Беларусі ў Нямеччыну за час з 1941 г. па 1942 г. вывезена на працу, а затым эвакуавана некалькі соцен тысяч людзей. Акрамя таго значная колькасьць беларусаў знаходзіцца ў лягерах для ваеннапалонных,куды яны трапілі з Савецкай Арміі. Агульная колькасьць беларусаў у Нямеччыне дасягае, па дадзеных БЦР, аднаго мільёна чалавек, але ня выключана, што іх налічвалася і больш. Усе гэтыя людзі пераважна ва ўзросьце ад 18 да 55 гадоў і пераважна мужчыны, якіх маецца ня менш 750.000 чалавек. Для ўстанаўленьня дакладнай колькасьці беларускіх грамадзян неабходна правесьці рэгістрацыю працаўнікоў па нацыянальнасьцях, каб затым можна было аб'яднаць іх у свае нацыянальныя лягеры. Далей мэмарандум расказываў аб гісторыі стварэньня Краёвай абароны БЦР, якая налічвала: 36 пяхотных батальёнаў ад 500 да 800 чалавек кожны, усяго прыблізна 25.000 чалавек пяхоты, 2 чыгуначных батальёнаў па 1000 чалавек, 5 піянерскіх батальёнаў па 500-800 чалавек, а ўсяго каля 30.000 асобаў. Акрамя таго былі яшчэ ў Беларусі паліцэйскія батальёны, якія не былі падлічаны БЦР. Частка гэтых узброеных сілаў адведзена зараз на тэрыторыю Нямеччыны і прымае ўдзел у баях на заходнім фроньце. Пасьля правядзеньня рэгістрацыі беларусаў прызыўнога ўзросту можна будзе часткова выкарыстоўваць для папаўненьня ўжо існуючых і для стварэньня новых беларускіх частак. Без усякай нацяжкі можна лічыць, што на тэрыторыі Нямеччыны можа быць створана 100. 000 беларуская армія, якая зможа прыняць удзел як самастойная адзінка, пад назовам «Беларускі Легіён», у баях на заходнім або ўсходнім франтах. Для правядзеньня гэтых мерапрыемстваў неабходна, каб БЦР атрымала мажлівасьць працягваць сваю дзейнасьць на тэрыторыі Нямеччыны.

Зьмест беларускага мэмарандума вельмі зацікавіў гетмана й яго спутнікаў. Скарападзкі папрасіў Астроўскага даць яму копію мэмарандума. Астроўскі абяцаў у бліжэйшыя дні даць копію, але прасіў, каб яна не была апублікавана або занадта шырока абвешчана ва ўкраінскіх колах, так як гэта можа пашкодзіць БЦР у нямецкіх колах і арганізацыях, дзе гэтым мэмарандумам займаюцца ўжо цэлы месяц і паступова ствараецца настрой, спрыяльны для правядзеньня асобных палажэньняў мэмарандума.

Затым Скарападзкі абвесьціў вялікі мэмарандум, які ён падаў ад імя арганізацыі гетманцаў (але не як гетман, а як старшыня грамадзкай арганізацыі), на імя нямецкага ўраду ўлетку 1944 г. У мэмарандуме расказывалася гісторыя Украіны, пад кіраўніцтвам гетманцаў, указывалася што «гетманская ідэя» і практыка набліжаюцца да «ідэі» «правадырства» сучаснай Нямеччыны, што Украіна заўсёды змагалася за сваю незалежнасьць з Польшай, маскоўскімі царамі, турэцкімі султанамі і крымскімі ханамі. Эканамічна Украіна—вельмі багатая краіна з насельніцтвам у 43.000.000 чалавек, а тэрыторыя настолькі вялікая, што

можа ўмясьціць у тры разы больш насельніцтва. Геаграфічнае становішча— таксама даволі зручнае. І Украіна, калі Польшча будзе ўведзена ў яе этнаграфічныя межы, будзе сяброўскім суседам Нямеччыны. Адносіны палітычныя павінны быць асновані на прызнаньні Нямеччынай незалежнасьці ўкраінскае дзяржавы з гетманам на чале і старажытнымі ўкраінскімі ўстановамі ў адміністрацыі. Адносіны эканамічныя складаюцца на аснове тавараабмену паміж зямельнай і жывёлагадоўчай Украінай і прамысловай Нямеччынай. Далей указвалася, што ўкраінцы ўжо зараз прымаюць удзел ва ўзброенай барацьбе Нямеччыны з СССР, але ўдзел іх быў-бы непамерна большым й актыўнейшым, каб Нямеччына прызнала незалежнасьць Украіны. Тады, натхнёные лозунгам «За незалежную Украіну», ва ўкраінскія вайсковыя часткі, якія існуюць й якія яшчэ могуць быць на тэрыторыі Нямеччыны створаны, уступілі-б усе ўкраінцы, якія могуць насіць зброю. Вестка аб прызнаньні незалежнасьці Украіны Нямеччынай узмацьніла-б таксама і паўстанцкі рух на Украіне ў тыле савецкіх войскаў.

Пасьля абвешчаньня свайго мэмарандума Скарападзкі ўказаў, што для пасьпяховага руханьня ўкраінскіх патрабаваньняў не хапае ўкраінцам у Нямеччыне яднаньня. Акрамя арганізацыі гетманцаў існуюць яшчэ дзьве вялікія ўкраінскія арганізацыі, якія спаборнічаюць паміж сабой, і пару больш дробных. Беларусы, якія маюць БЦР, паўнамоцтвы якой, бясспрэчна, знаходзяцца ў больш зручным становішчы. Вакол БЦР могуць групавацца ўсе беларусы, незалежна ад сваіх поглядаў. Украінцы такой агульнанацыянальнай арганізацыі яшчэ не сумелі стварыць, але захады да гэтага робяцца. Адбываюцца перамовы аб зьліцьці ўсіх груп шляхам стварэньня Украінскага нацыянальнага камітэту, у якім усе гэты групы былі-бы прадстаўлены і на чале якога стаяла-б прызнаная ўсімі групамі аўтарытэтная асоба. Скарападзкі быў-бы вельмі ўдзячны, калі-б беларусы сваім сяброўскім пасрэдніцтвам дапамаглі ўкраінцам дамовіцца.

Астроўскі згадзіўся па меры мажлівасьці садзейнічаць пагадненьню паміж украінскімі групамі і стварэньню Украінскага нацыянальнага камітэту, так як такая ўстанова ўзмоцьніць і становішча БЦР. Затым Астроўскаму палкоўнік Гамзін даў адрасы ўкраінскіх арганізацыяў у Бэрліне і коратка ахарактарызаваў іх, падкрэсьліўшы, што найбольш аўтарытэтная сярод украінцаў зьяўляецца зараз арганізацыя «бендэраўцаў». Сам Бендэра ўсё яшчэ знаходзіўся ў нямецкім канцэнтрацыйным лягеры, куды ён быў пасаджаны за тое, што ў самым пачатку акупацыі Украіны аб'явіў ва Львове стварэньне незалежнай Украіны. Толькі ягоныя аднадумцы працягвалі працаваць і ў іхніх руках знаходзіцца ўвесь партызанскі нацыянальны рух на Украіне, які накіраваны як супраць савецкіх войск, так і супраць польскай Арміі Краёвай, а ва многіх выпадках, у глыбіне краіны і ў далечыні ад шляхоў— супраць дробных нямецкіх атрадаў фуражыраў.

Астроўскі зацікавіўся дзейнасьцю, сіламі й раёнам дзейнасьці бендэраўскіх паўстанцкіх атрадаў. Скарападзкі дакладных дадзеных даць ня мог, але ўказваў, што яны дзейнічаюць пераважна ў Галіцыі і на Валыні і што «бендераўцы» захоўваюць гэтыя інфармацыі ў надзвычайнай таямніцы. Вядома аднак, што ў атрадах «бендэраўцаў» аб'яднаныя многія тысячы людзей.

За гэтым Астроўскі, па просьбе Скарападзкага, праінфармаваў аб становішчы ў Беларусі. Ён паведаміў, што штодзёна атрымоўваў лісты з Кенігсбэргу, дзе ў першыя



Працяг у наступным нумары

тыдні па эвакуацыі знаходілася БЦР. Пры Беларускім камітэце ў Кенігсбэргу яшчэ і зараз маецца некалькі прадстаўнікоў БЦР. Таксама мае лісты з Познані і Варшавы, куды ўсё яшчэ прыбываюць асобныя ўцекачы зь Беларусі. З апытаньня ўцекачоў бачна, што ў Беларусі пачаліся моцныя рэпрэсыі, што беларускае сялянства незадаволенае вяртаньнем калгаснага землеўладаньня, бо нягледзячы на тое, што немцы таксама забіралі многа хлеба, сялянства мела яго для сябе і для продажу ў дастатковай колькасьці. На гэтай аснове разьвіваецца зараз у Беларусі паўстанцкі рух, у які далучыліся таксама астаткі некаторых батальёнаў Беларускай Краёвай абароны, якія не пасьпелі адыйсьці пры адступленьні і вымушаны былі заставацца ў Беларусі. Аб паўстанцкім руху ў Беларусі расказываюць і ваеннапалонныя, узятыя ў апошніх баях на ўсходнім фроньце пад Варшавай, дзе дзейнічаў беларускі батальён СС. Галоўным раёнам дзейнасьці беларускіх партызанаў-паўстанцаў зьяўляецца Заходняя Беларусь і Палесьсе. Вельмі важным зьяўляецца ўстанавіць сувязь паміж атрадамі «бендэраўцаў» і беларускімі паўстанцамі для аб'яднаньня іх дзейнасьці. Важным таксама зьяўляецца пытаньне аб дакладным ўстанаўленьні мяжы паміж Беларусьсю й Украінай, каб ні зараз, ні ў далейшым па гэтаму пытаньню не было недамоўленасьці і непаразуменьняў паміж беларусамі й украінцамі, як гэта часта назіралася ў мінулым.

Скарападзкі падкрэсьліў, што ўкраінцы, у адносінах да беларусаў і Беларусі, маюць старое і моцнае пачуцьцё сымпатыі, а таму ён лічыць, што ў пытаньні аб межах ня будзе непаразуменьняў, тым больш, што й украінцы ў пытаньні мяжы стаяць на этнаграфічным прынцыпе, як і беларусы.

Астроўскі указаў, што некаторыя ўкраінскія этнографы адносяць беларусаў-палешукоў да украінцаў і на гэтай падставе дамагаліся ў нямецкіх установах ўключэньня ў склад акупаванай Украіны таксама Палесься з Брэст-Літоўскам, Пінскам і нават Гомелям, што і было імі дасягнута. Толькі пасьля шматлікіх тлумачэньняў са стараны Беларускай самадапомогі, а затым і з боку Беларускай Цэнтральнай Рады гэтыя вобласьці былі толькі ўжо ў 1944 г. уключаны ў склад Беларусі. Гэтыя прэтэнзыі ўкраінцаў на Палесьсе, Гомель, Мазыр, Пінск і Брэст-Літоўск прывялі адзін час да моцнага пагоршваньня беларуска-украінскіх адносінаў, а таму гэтае пытаньне належыць раз і назаўсёды высьветліць у канчатковай форме. У прыватнасьці, цікава ведаць пазыцыю ў гэтым пытаньні самога Скарападзкага і «Саюзу гетманцаў».

Скарападзкі вельмі зьмяшаўся гэтай нечаканай атакай, памяўся і адказаў, што украінцы-гетманцы не жадаюць прэтэндаваць на беларускія тэрыторыі, што ў яго няма пад рукамі карты гетманскай Украіны, як яна разглядаецца гетманцамі, і што ён зараз выказаў-бы толькі свой асабісты погляд. Таму ён паставіць гэтае пытаньне ў штабе «Саюзу гетманцаў» і спадзяецца, што зможа даць Астроўскаму ў бліжэйшыя дні афіцыйны адказ ад імя «Саюзу» і што гэты адказ будзе задавальняць беларусаў. Неабходнасьць узаеманых уступак і поўнай дамоўленасьці ў пытаньні аб беларуска-украінскіх межах ён цудоўна разумее і ведае, што без вырашэньня гэтага пытаньня ня можа рухацца наперад і практычна вырашацца пытаньне аб стварэньні ўкраінска-беларускага саюзу.

6 сьнежня 1945 г,

Подпіс

# З Раствам Хрыстовым і Новым годам!

Любыя і дарагія парафіяне, Жыровіцкае Божае Маці БАПЦарквы ў Кліўленьдзе!

Вітаю Вас з надыходзячым сьвятам, калі ангел абвесьціў праз пастушкоў: *«Вось абвяшчаю вам вялікую радасьць, якая будзе ўсім людзям, бо нарадзіўся вам сягоньня ў месцы Давыдавым (Бэтліеме) Збавіцель —Хрыстос Гасподзь»*. Лк. 2,10—II.

Гэта была запраўды вялікая радасьць, ня толькі для прачыстае Дзевы Марыі й праведнага Язэпа, але і пастушкоў, якія першымі былі сьведкамі слова Божага, мудрацоў, што ўбачылі Зорку на небе, пайшлі за ёй, каб пакланіцца дзіцятку. Зь Ясьляў зазьзяла сонца праўды, і сэрцы ўсіх прыгнечаных зьняволеных напоўніліся надзеяй, і для іх бліснулі прамені Уладарства Божага.

Мы, дарагія Браты і Сёстры, жывучы на чужыне, кожны год напаўнялі сэрцы нашыя надзеяй, што Божае Уладарства прыйдзе на нашую зямельку, на любую Бацькаўшчыну, Беларусь. Нас прымусілі пакінуць яе, але мы яе не адракліся, яна засталася ў сэрцах нашых. Так узмоцьнім-жа сёньня любоў да роднай Беларусі, яе мовы, гісторыі, культуры, царквы.

У гэтай веры, надзеі й любові да народжанага Ісуса Хрыста, Госпада й Спаса нашага вітаю ад сябе і маёй сям'і, ад парафіяльнай Рады, Вас, дарагія парафіяне, усіх чытачоў часопіса «Полацак» і кожнага, хто пачуваецца хрысьціянінам і беларусам зь вялікім і радасным сьвятам нараджэньня Хрыстовага.

**Прат. Міхась Страпко, настаяцель**
**і Парафіяльная Рада Жыровіцкай**
**Божай Маці ў Кліўленьдзе.**

Сьв. Мікалая —угодніка Божага шануюць усе беларусы і хрысьціяне сьвету. Ён прыклад шчодрасьці, багаты на добрыя дары. За гэта яго ведаюць, чакаюць і велічаюць усе, а асабліва дзеці.

Толькі сьв. Мікалай вядомы ня толькі сваімі падарункамі. Як манах, падвіжнік, архіпастар, япіскап, ён быў глыбока адданы царкве. Быў ён паўстрыманым і пакорлівым, якім павінен быць хрысьціянін. Стаўся ён нам прыкладам, як ісьці жыцьцёвым шляхам, каб атрымаць ягонае заступніцтва і дапамогу маральную і духовую.

Сваімі ўчынкамі выяўляў ён веру і перакананьне прысутнасьці Божае. Быў сьв. Мікалай ціхім, але,калі справа датычалася прынцыпаў хрысьціянскіх, то бараніў іх рашуча і востра. Мы, праваслаўныя беларусы, таксама павінны мужна і прынцыпова дамагацца ўвядзеньня нашае мовы ў Багаслужбу і царкоўную адміністрацыю.

Гэты сьвяціцель даў прыклад, як патрэбна хрысьціянам адносіцца да бліжніх і ўсіх людзей, паказаў, што трэба быць памяркоўнымі да іншаверцаў, але не адступаць ад сваіх прынцыпаў. У нашым жыцьці вельмі важна, каб мы жылі ня толькі для сябе, але падумалі аб іншых, каб памяталі, што народ наш перажывае вялікую трагедыю — вынікі Чарнобыльскай катастрофы.

Сьвяты надыходзяць, радасныя і даўгачаканыя. І рыхтуючы падарункі для сваёй сям'і,не забудзьцеся аб чарнобыльскіх дзетках, якія таксама чакаюць прыходу сьв. Мікалая з дарамі.

**Прат. Міхась Страпко**

# Віленскія беларусы расказваюць...



Сьвятлана Белая

Дзень Слуцкага паўстаньня, як і 25 Сакавіка, беларусы Замежжа заўсёды адзначаюць ўрачыста. У гэты дзень у цэрквах, на могліцах, каля помнікаў беларускіх змагароў (у Саўт Рывэры, Нью Брансьвіку) служацца паніхіды, у час якіх вэтэраны трымаюць у руках сьцягі: бел-чырвонабелы, пад якім мужна замагаліся случчакі й паласата-зорны, які захоўваў сем'і многіх барацьбітоў. Пасьля паніхіды звычайна адбываюцца акадэміі, і дакладчыкі нагадваюць слухачам старонкі барацьбы случчакоў за правы беларускага народу. Невялічкі канцэрт, падрыхтаваны мясцовымі артыстамі, адсьпяваньне «Спі пад курганам» або «Спіце ўсе тыя, што праўды па сьвеце шукалі» ля сымбалічнай магілы герояў. І, самае галоўнае, далучэньне да тых ідэяў, за якія паклалі сваё жыцьцё беларускія змагары. Гэтае сьвята, якое адзначаецца кожны год на эміграцыі, ужо даўно стала часткай жыцьця беларусаў Замежжа.

—А ці сьвяткаваўся дзень Слуцкага паўстаньня ў Вільні?— аднойчы запыталася я ў доктара Вітаўта Тумаша.

Нашая размова адбывалася незадоўга да дня сьвяткаваньня 71-й гадавіны дня Збройнага чыну і, як паказалася мне, доктар чакаў гэтага пытаньня.

—Так, —адказаў мой субяседнік. — Дзень Слуцкага паўстаньня адзначаўся ў Вільні. Пэўна, што тады ён сьвяткаваўся ня так прыўзьнята, як сёньня. Гэта былі невялікія зборкі нацыянальна сьвядомых беларусаў, вельмі сьціплыя як па колькасьці людзей, так і па сваёй урачыстасьці. Беларусы адчувалі абавязак не забыцца сваіх герояў, якія аддалі жыцьцё за сваю Бацькаўшчыну. Таму, нягледзячы на ўсе перашкоды, якія стваралі польскія ўлады, мы штогод сьвяткавалі свае сьвяты.

Слуцкае паўстаньне пачало адзначацца ў Вільні недзе зь сярэдзіны 30-х гадоў, прыблізна з 1935-1936 гг. Арганізатарамі й ініцыятарамі гэтага нацыянальнага сьвята былі студэнты Беларускага Студэнцкага Саюзу, беларуская інтэлігенцыя.

Паважны ўдзел бралі і беларусы, якія прыехалі з Прагі, былыя студэнты Праскага ўнівэрсытэту. Зараз мне ўзгадваюцца прозьвішчы толькі некаторых зь іх: Бусел, гісторык Чарнецкі, таксама Янка Станкевіч,

Вінцусь Грышкевіч... Але навучэнцаў Пражскага ўнівэрсытэту было ў той час у Вільні значна больш. Таксама ў сьвяткаваньні Дня Слуцкага паўстаньня прымала ўдзел група беларусаў-эсераў.

Як я ўжо казаў, сьвята адзначалася вельмі сьціпла. У невялікім пакоі або залі (вынаймаць памешканьне не было грошаў) зьбіраліся ўсе, каму была дарага беларуская ідэя. Дакладчык чытаў рэфэрат. Пасьля пачыналася ягонае абмеркаваньне. Атмасфэра нагадвала хутчэй за ўсё больш рабочую, але ўсё роўна, то было нашае нацыянальнае сьвята.

Хаця сьвяткаваньне дня Слуцкага паўстаньня плянавалася як антысавецкая акцыя, палякі Вільні былі супраць адзначэньня дня Збройнага чыну. Яны варожа ставіліся і да самой ідэі Слуцкага паўстаньня, колы Пілсудзкага казалі, што паўстаньне сваім прыкладам небясьпечна для пралетарыяту.

Эканамічная сытуацыя на Віленшчыне ў той час была нялёгкая, палякі закідвалі ў беларускія арганізацыі правакатараў, каб раскалоць групоўкі, паслабіць беларускі рух. Але з другога боку, расла самасьвядомасьць беларусаў, асэнсаваньне неабходнасьці яднаньня, прапагандаваньня сваёй нацыянальнай сымболікі.

Мары і спадзяваньні беларусаў, якія нягледзячы на ўсе перашкоды і забароны польскіх уладаў сьвяткавалі дзень Збройнага чыну Случчыны, атрымалі сваё далейшае разьвіцьцё на эміграцыі.

Ідэя-ж Слуцкага паўстаньня, 72-я ўгодкі якога мы сьвяткавалі днямі, вяртаецца на Бацькаўшчыну.



Нью-Брансьвік. Помнік змагарам, якія загінулі за свабоду Беларусі

# Віленская Беларуская гімназія

 Вітаўт Тумаш 

Базыльянскія муры складаліся з трох будынкаў, утвараючы дворык з Троіцкай царквой у сярэдзіне. У тым будынку, дзе знаходзілася гімназія, мелася тры паверхі і склеп. На першым паверсе была гімназія, другі—належаў праваслаўнаму духавенству, на верхнім жылі некаторыя выкладчыкі, а пад дахам разьмяшчаліся заваленыя кнігамі, часопісамі, газэтамі пакоі. Гэта была частка кніжных фондаў з прыватнай бібліятэкі-чытальні Даніловіча «Знание». Калісьці ў гэтай бібліятэцы працаваў бібліятэкарам на абанеменьце Янка Купала, і гэта была адна з найбольшых, па колькасьці расейскай літаратуры, бібліятэкаў у Вільні. Калі ў горадзе ўстанавілася польская ўлада — частку яе літаратуры перавезьлі ў будынак гімназіі і звалілі без разбору пад стольлю, дзе яна і ляжала без нагляду.

На шчасьце гімназістаў, дырэкцыя Віленскай Беларускай гімназіі мела ключы ад тых пакояў. Калі навучэнцы хацелі знайсьці нейкую кніжку, яны маглі ўзяць ключы і цэлы дзень сядзець у тых пакоях, перабіраючы багатую калекцыю расейскай літаратуры.

Знаходзілася ў гімназіі рэгулярная бібліятэка, але кніг у ёй было няшмат, асабліва беларускіх (бо іх, наогул, на той час было мала). Звычайна Антон Луцкевіч, які выкладаў у нас літаратуру, прыносіў беларускія кнігі зь Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча. Ён чытаў нам вершы й апавяданьні з зборнічкаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча,, выдадзеных ў Вільні. Многія з тых кніг былі з аўтографамі аўтараў. Пасьля лекцыяў Антон Луцкевіч зноў заносіў кнігі ў музэй.

Беларускі музей імя Івана Луцкевіча знаходзіўся у Базыльянскіх мурох. Ён быў адкрыты ў 1921 г., два гады пасьля сьмерці яго зьбіральніка Івана Луцкевіча. Гаспадаром музею было Беларускае Навуковае Таварыства, а кіраўніком да свайго арышту й зьнішчэньня ворганамі НКВД—Антон Луцкевіч.

Музэй займаў 4 або 5 пакояў, якія былі запоўнены і нават перапоўнены рознымі экспанатамі, што адлюстроўвалі жыцьцё беларусаў — з старажытнейшых часоў і да сучаснасьці.

У першым пакоі віселі старадаўнія абразы, іконы. Таксама тут разьмяшчалася ўнікальная калекцыя невялікіх скульптурак з дрэва, драўляных Хрыстосікаў, што ставілі калісьці на магільніках. Калекцыю пачаў зьбіраць Іван Луцкевіч, і яна складалася прыблізна з 15—20 экспанатаў. Усе Хрыстосікі, розныя велічыні і даўніны, былі засмучана-жарботныя. Некаторыя, выробленыя ў стылі барока, нагадвалі хутчэй анёлаў. Аб'ядноўвала-ж іх тое, што ўсе яны былі зробленыя рукамі таленавітых народных майстраў. Мастак Пётра Сяргіевіч у адным з нумароў беларускага часопіса «Нёман» (выйшла недзе 5 нумароў часопіса) зьмясьціў некалькі здымкаў музэйных Хрыстосікаў і артыкул, у якім вельмі высока ацаніў майстэрства вясковых умельцаў. У музэі Хрыстосікі не стаялі пад шклом, а размяшчаліся па ўсяму пакою. І такая вольная кампазыцыя, выкліканая, пэўна, недахопам месца, яшчэ больш узмацьняла іх старажытнасьць.

У другім залі была вялікая калекцыя зброі, рознага роду шаблі, шашкі, мячы.



Працяг. Пачатак ў № 3(13)—7(17), 1992

Зброю Іван Луцкевіч зьбіраў увесь час, вандруючы па Беларусі, выменьваючы другарадныя рэчы на атрыбуты беларускага воіна. Калекцыя была надзвычай багатая і сапраўды ўнікальная.

У трэцім—віселі карціны і малюнкі па гісторыі, фантастычныя пейзажы Язэпа Драздовіча, ягоныя замалёўкі жыхароў далёкіх плянетаў. Драздовічаўскі партрэт Скарыны, вялікае палатно Сяргіевіча «Скарына ў друкарні»,, таксама віселі ў гэтым пакоі. Кожны, хто асабіста ведаў Сяргіевіча, пазнаваў у вобразе майстравога, памочніка вялікага першадрукара, самога мастака.

Меліся ў музэі калекцыі пячатак, манэтаў, адзеньня, ганчарных вырабаў і г.д. Бясцэнную калекцыю складалі кнігі. У музэі перахоўваліся татарскі рукапіс XУII ст. «Аль Кітаб», напісаны па-беларуску арабскімі літарамі, творчая спадчына Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Міхася Машары й іншых беларускіх пісьменьнікаў. У Беларускім музэі захоўваліся ўсе кнігі, выдадзеныя нашаніўцамі, меліся і раньнія беларускія выданьні, а таксама перапіска Сапегаў, інвэнторскія кнігі, перапіска Багдановіча з Луцкевічам, архівы «Нашай нівы», першадрукі Феоля, некаторыя рэдкія царкоўныя выданьні. Напэўна, захоўвалася тут і «Мужыцкая праўда».

Сярод іншых цікавых экспанатаў памятаю разнакаляровы арыгінальны дыван, спляцёны з 100 стужак-паяскоў, якія вырабляе маладая на вясельле, крашанкі—каляровыя адбіткі на паперы і тканіне. Гімназісты, а таксама студэнты, сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу, стараліся папоўніць калекцыю. У час вакацыяў, калі гімназісты ехалі да бацькаў або вандравалі па Беларусі, яны стараўся прывезьці ў музэй нешта цікавае, незвычайнае, каб узбагаіць калекцыю старажытнасьцей.

Аднойчы і я, гуляючы па беразе р. Вільлі, знайшоў нейкую скамянеласьць. Аказалася , што яна паходзіла з старажытных часоў, і ўяўляла рэдкае геалягічнае ўтварэньне. Я перадаў тую скамянеласьць музэю, і яна была сярод іншых экспанатаў. Другім разам, у 5 км на поўначы ад возера Вішнеўскага, знайшоў верхнюю частку сякеры. Яна паходзіла з каменнага веку, неаліту, была ўжо адшліфаваная, а не сырая. Праляжала яна, прыкрытая верхнім слоям зямлі, пакуль яе ня змылі грунтовыя воды, тысячы гадоў і захавалася цудоўна, быў адломаны толькі маленькі кавалак. Старажытная сякера таксама стала часткай экспазыцыі Беларускага музэя.

Пэўна, што несьлі экспанаты ў музэй ня толькі навучэнцы, але і сьвядомыя беларусы. Так, аднойчы ў музэй зайшоў Зыгмунд Нагроцкі. Ён меў у Вільні краму, у якой прадаваліся гаспадарчыя прылады: плугі, малатарні. Зыгмунд быў беларускага паходжаньня і да нацыянальнай справы ставіўся вельмі прыхільна. Зыгмунд Нагроцкі падарыў музэю фотапартрэт Кастуся Каліноўскага. Гэта была вельмі рэдкая рэліквія. Мажліва ім-жа былі падараваны музэю рукапісы з XIX стагодзьдзя, пачынаючы з 1863 г. з моцнай прапагандай супраць царскага прыгнёту. Памятаю таксама, як за 2-3 гады перад вайной адзін беларус з Смаргоні прывёз Антону Луцкевічу і падараваў музэю скуру белага палярнага мядзьведзя. Гэты экспанат, які, хаця і быў небеларускага паходжаньня, заўсёды прываблівай гледачоў сваёй незвычайнасьцю.

Наведвальнікаў музэю было не так багата: пераважна прыходзілі ў музэй гімназісты і студэнты. Экскурсіі праводзіліся ў музэі ня часта, бо ён не працаваў, як дзяржаўная ўстанова, кожны дзень і

грошаў на ягонае ўтрыманьне палякі не давалі. Каб наведаць музэй, жадаючыя мусілі дамовіцца з Антонам Луцкевічам. Часта экскурсаводамі былі студэнты факультэту права і грамадзкіх навукаў Віленскага ўнівэрсытэту, сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу. Памятаю, што даволі часта экскурсіі праводзіла спадарычня Мелючанка.

У музэі быў адведзены пад канцылярыю спэцыяльны пакой. Тут ляжалі кнігі рэгістрацыі наведвальнікаў, інвэнторныя папкі. Тут-жа адбываліся паседжаньні Беларускага Навуковага Таварыства й іншыя зборкі беларусаў.

Калі-ж у музэй прыязджалі нейкія вучоныя, дасьледчыкі або важныя асобы экскурсію веў заўсёды Антон Луцкевіч. Дарэчы, ён меў некалькі пакойчыкаў у будынку Базыльянскіх муроў, дзе жыў зь сям'ёй.

Перад вайной у Вільні быў арганізаваны месячнік музэяў. Многа віленчукоў наведалі музэй за гэты месяц. Экскурсіі тады праводзіў Антон Луцкевіч, гэта былі ягоныя апошнія экскурсіі. Пасьля першага арышта Антона Луцкевіча музэй працягваў працаваць.

З прыходам бальшавікоў у Вільню, музэям зацікавіліся супрацоўнікі НКУС. Антон Луцкевіч аднойчы расказваў, што неяк у Беларускі музэй зайшоў афіцэр, які праглядзеў экспазыцыю музэя і заўважыў: «Вельмі добра, што Вы захавалі гэта для рускай культуры». Пазьней музэй сталі наведваць супрацоўнікі НКУС зь Менску. «Зборы беларускіх нацыяналістаў» ім не былі цікавыя, але запісы пратаколаў Беларускага Навуковага Таварыства і іншых зборак беларусаў яны хацелі мець, бо у іх былі імёны многіх сьвядомых беларусаў.



Пасьля адведваньня Беларускага музэя імя Івана Луцкевіча. Група украінскіх студэнтаў і Антон Луцкевіч (першы рад, чацьверты зьлева) У другім радзе першы (зьлева) старшыня Беларускага Студэнцкага саюзу Мікалай Шчрос. Фота з калекцыі д-ра М.Шчорса.

Але дастаць гэтыя дакумэнты энкэвэдыстам не ўдалося. Група беларусаў, зьняўшы замкі з апячатанага музэю, пранікла ноччу ў ягонае памяшканьне і забрала ўсе дакумэнты, якімі маглі зацікавіць органы НКУС. Гэтыя дакумэнты былі пазьней закапаныя, і іхні далейшы лёс невядомы.

Беларускі музэй перажыў польскую, савецкую, летувісцкую і нямецкую акупацыі. Але пасьля вайны, музэй, зь ягонымі багатымі скарбамі гісторыі й культуры беларускага народу, быў зачынены, багатая-ж яго беларуская калекцыя была зрабаваная. Бальшыня гістарычна-этнаграфічных матэр'ялаў, разам з багатым зборам беларускіх нацыянальных тканінаў і вопраткі, былі забраныя ў гістарычна-этнаграфічны музэй Літоўскай ССР. Калекцыя абразоў, іконаў, партрэтаў трапіла ў Дзяржаўны мастацкі музэй Літоўскай ССР, бібліятэка і архіўныя зборы — ў Цэнтральную бібліятэку Акадэміі навук Літоўскай СССР.

У кнізе вопісу рукапісных фондаў Цэнтральнае бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, (была па-летувіску надрукаваная ў 1963 г). ёсьць кароткая даведка пра рукапісныя матэр'ялы былога Беларускага музэю.[1] Перахоўваліся яны ў бібліятэцы акадэміі ў фондзе Ф 21 ВБФ, (Vilniaus Baltarusiu Fondas — Віленскі Беларускі Фонд). Паводля гэтага вопісу, беларускі архіўны фонд бібліятэкі складаўся з 2306 рукапісных пазыцыяў. Тут знаходзіліся гэткія рукапісныя матар'ялы:

Аўтографы, рукапісы, машынапісы беларускіх пісьменьнікаў, моваведаў, фальклярыстаў1850-1939 гг.

З важнейшых аўтараў згадаваліся: Ян Чачот, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Адам Гурыновіч, Янка Лучына, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Максім Танк, Піліп Пястрак, Зьмітрок Бядуля, Міхась Машара, Алёіза Цётка. Некаторыя рукапісы ды астаткі архіваў беларускіх палітычных культурных, асьветных арганізацыяў, таварystваў, а таксама рэдакцыяў газэт 1904-1939 гг.

Дакумэнты зямляўладаньня беларускіх і летувіскіх фэўдалаў: жамойцкага біскупа А.Тышкевіча (XVIII ст.), акты XVI—XIX ст, Лагойскай і Палангавай лініі графоў Тышкевічаў, Акты 1571—1728 гг. роду Сапегаў, XVII—XVIII ст. роду Радзівілаў, 1800-1837 гадоў фэўдалаў Кастравіцкіх, 1530-1906 гадоў М.Касьцюшкі. Акты 1507-1854 гадоў манастыроў, цэркваў Вялікага княства Літоўскага й вялікага ліку драбнейшых жамойцкіх баярскіх двароў, дваркоў ды хвальваркаў. Некаторыя дакумэнты места Вільні і сярод іх акты зямельнае ўласнасьці друкароў Мамонічаў. Некаторыя дакумэнты 1812—1814 гадоў пра паход Напалеона I на Расею.

У гэтым фондзе перахоўваўся рукапіс «Аль Кітаб», машынапіс 2-га нумару часопісу «Гоман, белорусское революционное обозрение» з 15 кастрычніка 1884 г. Паперы «Пецярбургскага таварыства студэнтаў беларусаў» (ВБФ—2219), таварыства працаўнікоў беларускага тэатру «Полымя» ды іншыя. Каталёгі кнігаў бібліятэкі «Знание», паперы таварыства «Беларуская драматычная майстроўня» 1911-1915 гадоў. Рукапісная спадчына беларускага фальклярыста А. Р.Раманава ды іншыя матэр'ялы.

Толькі частка музэйных экспанатаў, была перавезана ў Менск. Так і загініў унікальны музэй Івана Луцкевіча, слава і гонар беларусаў.

Працяг у наступным нумары

1. Rankrasciu rinkiniai. Lituvos TSR Mokslu akadimijos Centrines Bibliotekos XI-XX amziu rankrasciu fondu trumpa apzvalga. Lietivos TSR Akademija . Centrine biblioteka ,Vilnius, 1963, 62-66.

Заўжды лічылася, што ЧК, а потым ГПУ і, нарэшце, НКУС не залежаць ад ураду, бо барацьба з унутраным і вонкавым ворагам ёсьць асобая справа. Аднак усё было пабудавана на суцэльным сакрэце, і толькі Палітбюро (нават без ЦК КПБ ведала, што робіцца ў НКУ.




Пражыць мастаку, не пакідаючы пэнзаля, аказалася мажліва. Калі ты партрэціст, табе лягчэй за ўсё зарабляць грошы на выкананьні партрэта ў сябраў Палітбюро. Добра, што яны патрэбны кожнай арганізацыі (нават больніцам), ня кажучы аб установах, што належалі камуністычнай партыі.

Толькі пасьля сьмерці Сталіна разагналі бэрыяўцаў і зрабілі Камітэт дзяржаўнай бясьпекі, які падпарадкоўваўся Савету Народных камісараў. Але ад гэтай зьмены нічога не зьмянілася. Так званыя чэкісты разам з сваім багатым вопытам і звычаямі перабеглі ў міліцыю, працягваючы старыя мэтады барацьбы з ворагамі народу. На прыкладзе нашага Саюза мастакоў можна, як у люстэрцы, ўбачыць жыцьцё ўсёй краіны, паглядзець, як кіравала камуністычная партыя разам з рознымі камітэтамі ўсімі галінамі нашага жыцьця.

Раней, да кастрычніцкай рэвалюцыі мастакі былі вольнымі, пісалі, што ім самім было па душы, прапаноўваючы свае карціны мецэнатам. Затым дзяржава ўзяла на сябе адзінае права набываць творы, заказваць мастаку тое, што патрэбна дзяржаве і кіруючай партыі. Мастакі, якія былі нязгоднымі з тэмай заказанай карціны, заставаліся бяз працы ці прымушалі сябе рабіць тое, што ім не пасавала. Адсюль і зьявілася мастацтва афіцыйнае, халоднае і шэрае.

Партрэты сябраў Палітбюро патрабаваліся, у першую чаргу, для сьвятаў. (Няхай паспрабуе нехта з адказных партыйных кіраўнікоў завода ці нейкага прадпрыемства ня выставіць на фасадзе галоўнага будынку ўсіх сябраў Палітбюро, адразу паляціць з працы). Партрэты маляваліся для фасадаў дамоў, будынкаў магазінаў і больш за ўсё, для ўпрыгожваньняў дэманстрацыяў і парадаў, дзе амаль кожны ўдзельнік тых сьвяточных урачыстасьцей нёс партрэт сябра Палітбюро. Мала таго, кожная калона кожнага раёна абавязкова несла або везла на веласіпедах ці машынах вялікіх памераў партрэты закладчыкаў марксісцка-ленінскай партыі.

Дзякуй богу, што сябры Палітбюро часта мяняліся, а іхнія партрэты сьпісваліся па актах «за маральны ізнос». Мастакі чакалі новага пленума ЦК КПСС, бо ведалі, што зноў будуць абраныя новыя сябры, і ў замену «маральнага ізносу», будуць патрабавацца новыя «творы». Можна толькі ўяўляць, колькі народных грошаў пераво-

дзіла партыя на чарговых сябраў Палітбюро. Акрамя алейных партрэтаў былі і папяровыя, выкананыя літаграфічным друкам. Такія плякаты друкаваліся вялікімі тыражамі, і гэты іканастас распаўсюджваўся паўсюль.

Мне таксама прыходзілася рабіць партрэты Леніна або Сталіна невялікага памеру (69х80 см) па 20 рублёў за кожны. Працаваў ад раніцы да вечара за 100 рублёў. Спачатку рабіў трафарэт, каб на палатне адбіваць малюнак. Потым расфарбоўваў яго, спрабуючы дабіцца падабенства. Аднак гэта была далёка немастацкая праца.

Мне прыходзілася пісаць партрэты «правадыроў» і для Дома ўрада, дзе іхнія памеры дасягалі 10 метраў на 6. Стоячы на палатне малюеш вока метровага памеру, а ў руцэ трымаеш фотакартку, разьлінаваную на клеткі. Маляваў таксама партрэты для трыбуны, дзе стаяць сакратары ЦК КПБ разам з урадаўцамі на сьвятах і дэманстрацыях. Тут памеры былі меншыя 6 метраў на 4, але праца ўсё роўна была нялёгкая, бо мусіў падбіраць такі колер, які выбіралі іншыя мастакі, якія працавалі побач. Інакш твой «лідэр» будзе выдзяляцца ад іншых, чаго нельга было дапусьціць.

Успамінаеш гэтую працу, на якую пайшло столькі дарэмна патрачанага часу, і дзіву даешся, як нешта ўсё-такі было зроблена і засталося, у той час, калі партрэтнае засільле магло забіць мастака. Пераважная колькасьць партрэтыстаў зараблялі грошы менавіта на такіх партрэтах, а паралельна малявалі карціны, дзе ўжо было трохі мастацтва, бо працавалі з мадэльлю—натуршчыкам—у той вопратцы, што была патрэбна па тэме карціне ці пісалі з натуры інтэр'ер або эцюды-краявіды. Але было шмат мастакоў, якія так ніколі і не падняліся вышэй гэтага «мастацтва».

Усё гэта агульна адпавядае таму жыцьцю, у якім апынулася большасьць мастакоў у тыя часы. А зараз, давайце, паглядзім на канкрэтным факце, як адбываліся гэтыя заказы.

Звоніць да мяне на кватэру майстар афарміцельскага цэху мастацкага камбіната і загадвае зьявіцца ў КДБ у гаспадарчы аддзел, да маёра Лыскова па тэрміновай прычыне. Аказваецца, патрэбна хутка напісаць тры партрэты новых сябраў Палітбюро, якіх ня хапае на фасадзе будынку КДБ, замест тых, якія ідуць у маральны ізнос. (Трэба сказаць, што міністр замежнх справаў Грамыка, а таксама міністр абароны Грэчка, як і старшыня КДБ Андропаў, да таго часу не былі сябрамі Палітбюро. Таму перад сьвяткаваньнем 1 мая спатрэбілася зрабіць партрэты гэтых міністраў).

Мне далі тры фота, прысланых з Масквы, якія былі неяк скарочаны па вертыкалі, бо перадаваліся праз фотатэлетайп. Трэба было ўлічваць гэтую акалічнасьць і яшчэ патрапіць зрабіць партрэт у колеры так, каб ён не выдзяляўся ад іншых, старэйшых, партрэтаў. У якасьці прыкладу на падлозе ляжаў без падрамніка партрэт Шэлеста, у якога не было ні вусоў, ні барады, адна толькі лысіна. Вакол мяне ўвесь час мітусіліся кэгібісты і жартавалі, маўляў, Шэлестава адправілі на пэнсію таму, што мастакам было цяжка пісаць ягоны партрэт, бо не было за што зачапіцца, гол, як сакол. А на самой справе Шэлеста спісалі ў маральны ізнос за «нацыяналізм». Я працаваў і дзень, і ноч, а раніцай мастацкі савет прымаў гэтыя партрэты.

Калі я маляваў, то праз вакно бачыў «амэрыканку», ня ўцярпеў і запытаўся ў кэгэбіста, што мітусіўся каля мяне, што там знаходзіцца.

—А нічога, зараз «амэрыканка»

належыць МУС»,—пасьпешна сказаў той і адразу некуды зьнік. Адчувалася, што ён ня хоча дыскутаваць на гэтую тэму. Прычына была зразумелай.

Адразу пасьля вайны, калі Менск яшчэ ляжаў у руінах, пабудавалі шмат фанэрных забягалавак, пафарбавалі іх ў блакітны колер, пасьля чаго іх сталі называць «Голубым Дунаем». У тых блакітных дунаях шла гарэлка на разьліў. Гэтых блакітных дунаяў можна было сустрэць на кожным рагу, дзе разам з гарэлкай было піва, а ў зімку і з падагрэвам на газавых прымусах. Вядома, што там была і закуска, камса у неабмежаванай колькасьці. Піўзавод «Беларусь», а таксама спіртаводачны завод захаваліся ў часы акупацыі, яны захаваліся і пасьля яе, тым больш, што патрэба ў алкаголі павялічылася можа ў дзесяць разоў, у каго ад гора, у каго ад радасьці, што застаўся жыць, а ўвогуле, таму што вайна сбэсьціла людзей, вельмі многія згубілі сумленьне, пазабыліся на чалавечы гонар, а ўжо аб ветлівасьці і гаварыць не прыходзіцца. Мат можна было пачуць нават ад дзяўчат, што прайшлі школу вайны. Была згублена даверлівасьць чалавека да чалавека. Усім здавалася, што агульны вораг хаця і быў зьнічтожаны, але застаўся яшчэ сярод народу, асабліва сярод тых, што былі ў акупацыі.

Шпіёнская дзейнасьць працягвалася зь яшчэ большай, чым да вайны, актыўнасьцю, НКУ павялічыў свае штаты даносчыкаў і сэкстотаў. Абразіць чалавека нічога не каштавала, бо ўсё праходзіла без пакараньня. Назваць жанчыну «нямецкай падкладкай», або сказаць: «Ты лізаў боты Гітлеру», ці абразіць «калябарантам» супрацоўнікам з фашыстамі было вельмі лёгка. Абразіць ня проста словам, а больш усяго прыпісаць палітычную віну ў здрадзе Радзіме —вось дзе быў корань тваёй грэшнасьці.

Звычайна пры допытах ты павінен быў напісаць аўтабіяграфію тут-жа, у следчага і пад пагрозай арышту, даваў падпіску аб неразгалошаваньні тых пытаньняў, аб чым шла гаворка на допыце. Разам з арыштамі працягваліся ўзнагароды тых, хто больш другіх выкрыў шпіёнаў і здраднікаў, больш за ўсіх адзначыўся ў раскрыцьці злачынцаў у ідэалёгіі. Часьцей за ўсё «злачынцаў» хапалі ў забегалаўках, дзе пьянага правацыравалі брахаць вайсковыя байкі, а потым перадавалі яго ў паліцыю. Скажыце, што вельмі наіўна, але менавіта так і было ў тых блакітных дунаях, дзе п'яны чалавек бармоча ня ведама што.

Але вернемся да партрэтнага жывапісу. У ЦК кампартыі была нейкая пастанова, якая забараняла без дазволу бюро ЦК «замовіць» партрэт сваёй пэрсоны і тым больш выстаўляць яго на паказ гледачам. Сярод вышэйшай партыйнай эліты мелася чарга, іерархічныя прыступкі, хто за кім. Памятаю, як Наталевіч, старшыня Вярхоўнага Савету БССР, у час агляду экспазыцыі выстаўкі ў Тэатры оперы і балету чамусьці адарваўся ад усіх урадаўцаў, знайшоў дырэктара мастацкага музею Аладаву і загадаў ёй схаваць ягоны партрэт, каб яго не ўбачылі астатнія сябры ўраду. Партрэт Наталевіча намаляваў Валянтын Волкаў, які ў часы акупацыі ў Менску напісаў партрэт камісара гораду Янэцке й яго жонкі ў тэхніцы лесіроўкі. Волкаў пісаў свае партрэты з натуры заўсёды па 6 ці 8 сэансаў, гэтая праца была цяжкая, а нагароды малыя. За партрэт Янэцке Волкава папракалі вельмі доўга, але ягоная здольнасьць мастака-партрэтыста ўсё-такі ўзяла верх.

Яшчэ пры Сталіне партрэтнае мастацтва прыйшло ў заняпад, усё з тае прычыны, што

партыя вяла прапаганду працы любымі сродкамі. Каб заахвочваць іншыхісьці наперад у гэтыя высьцягі бяз грошаў, але за медалі, за першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве, ганаровую грамату, званьне перадавіка вытворчасьці, партрэт на дошке гонару раёну.

Звычайна мастак піша партрэты тых людзей, якія яму падабаюцца, якія вылучаюцца ад іншых ці сваімі рысамі, ці нейкай экзатычнасьцю, ці высакароднасьцю сваёй зьнешнасьці, ці яшчэ чым. Асабліва цікавымі бываюць партрэты сваякоў:маці, бацькі, брата, сястры. Карацей кажучы, партрэты, што робяцца не за грошы, а па гуканьню душы.

Гэтая хвароба—заказныя партрэты-паўсюды выціснулі сапраўднае мастацтва, а замест яго пайшла ў ход масоўка шэрых твараў рабочых каля станка або горнаў ці калгасьнікаў, дзе трактарнае кола на першым пляне, а калгасьніцы з абавязковымі ўхмылкамі, быццам-бы яны і не рабілі, бо праца ёсьць сьвята кожны дзень, а ня толькі ў часы дажджынкаў.

Аднойчы мне прыйшла думка напісаць партрэт пуцявога абходчыка чыгункі на фоне навакольнага пэйзажа, чыгуначнага маста з рачулкаю. Колькі спатрэбілася мне для гэтага дастаць папераў, каб атрымаць дазвол на выхад на чыгуначнае палатно, лепш не ўспамінаць. А калі я падабраў сябе ў якасьці натуры пуцявога абходчыка, дык і яго трэба было ўхваліць ў галоўным чыгуначным упраўленьні.

—Каго Вы абралі сабе за абходчыка? Ён-жа п'яніца і да таго-ж беспартыйны,—адказалі мне ў кіраўніцтве.

— Вось мы дадзім Вам стаханаўца, ён перавыконвае свае пляны звыш тых абавязкаў, што маюць усе. Ну, сапраўдны герой для вашай карціны. Да таго ён, дарэчы, і стары сябра партыі.

Узяўшы ўсе паперы на дазвол падыходу да чыгункі і прозьвішча абходчыка мы з сынам на машыне паехалі шукаць таго перадавіка працы. Гэта быў схудалы, сутулы чалавек, зь невыразным тварам. На ім, як на вешалцы, вісеў плашч, а фуражка, якую ён надзеў спэцыяльна для нас, сядзела толькі на вушах. Сын зрабіў некалькі здымкаў на палатне, дзе рэйкі ўходзяць ў прастору, дзе насып бачыцца на павароце —навакольны пейзаж.

Спачатку я хацеў стварыць вобраз чыгуначніка, які даглядае за рэйкамі, за станам насыпу, але мне далі канкрэтнага чалавека з прозьвішчам, якога павінны былі пазнаць на карціне супрацоўнікі. Таму я мусіў рабіць з партрэт тым падабенствам, зь якім толькі фота можа здолець, а не мастак. Урэшце, гэты партрэт атрымаўся ў шэрагу звычайных-заказных і ніяк не ўвайшоў у галярэю лепшых маіх партрэтаў. Ну, а да ліку лепшых адносіцца партрэт скульптара А.Глебава ў капялюшы. Ён доўгі час экспанаваўся ў нашым мастацкім музэі, але нехта з маіх «сяброў» на ягонае месца падсунуў свой. Дарэчы, гэта была частая зьява.

*Памятаю, як выстаўком адхіліў чатыры заказныя партрэты ўдарнікаў камуністычнай працы мастака Сухаверхава, бо палічыў іх выкананьне на нізкім мастацкім узроўні. Сухаверхаў, моцна пакрыўджаны такой непавагай да яго, залужанага дзеяча мастацтва ды яшчэ партызана, пабег шукаць ратунку ў ЦК КПБ. Загадчыкам адзела культуры такы быў нехта Марцлеў, звычайны наменклатуршчык, вельмі далёкі ад культуры. Той слухаў Сухаверхава, які на высокай ноце ўсё болей і болей павышаў голас. Маўляў, глядзіце, што робіць выстаўком: мае працы адхіляе, а партрэт Тычыны, мастака Хаіма Ліўшыца,*

*выстаўляе. Пэўна, што Ліўшыц— мастак нядрэнны, але чаму, як камуніст, піша партрэт мастака Тычыны, які ў часы акупацыі заставаўся ў Менску і не пайшоў у партызаны, як гэта зрабіў Сухаверхаў, дзе яго грамадзянскае сумленьне і г.д. І вынік...*

*Замест таго, каб параіць выстаўкому знайсці месца ў экспазыцыі для партрэтаў ударнікаў працы, дзе мастак Сухаверхаў зьяўляецца аўтарам, Марцелеў загадаў зьняць партрэт Тычыны, а на яго месца выставіць дрэнныя партрэты Сухаверхава.*

А вось яшчэ адзін прыклад мудрага кіраўніцтва мастацтвам. У 1982 годзе я арганізаваў пэрсанальную выстаўку з нагоды 70-годзьдзя зь дня нараджэньня.

У разьдзеле графікі паказаў галярэю партрэтаў, адраджэнцаў нашай беларускай культуры, пачынаючы ад Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, канчаючы Міхасём Чаротам, які перад сваім арыштам заклікаў братку-беларуса: «Кінь сароміцца мовы сваёй—беларусам пачні называць сябе...» Гэтыя графічная сэрыя, у якой звыш двух дзесяткаў партрэтаў, безумоўна, выклікала вялікі інтарэс у нашых пісьменьнікаў, а таксама ў настаўнікаў беларускай мовы.

—Вось-бы,— казалі яны,— выдаць асобным выданьнем сэрыю гэтых сусьветных дзеячоў. Такіх, напрыклад, як Адам Міцкевіч, на партрэце якога выбіты словы «...І на беларускай мове гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек, гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзьнікла даўно і цудоўна распрацавана...»

Нябожчык, пісьменьнік Аляксей Кулакоўскі, дырэктар літаратурнага музея Янкі Купалы, разам з сваімі супрацоўнікамі наведалі маю пэрсанальную выстаўку і склалі спіс маіх графічных твораў, куды ўвайшлі ўсе партрэты дзеячоў беларускай культуры і гісторыі, перадалі спіс Міністэрству культуры з мэтай закупкі іх для літмузея Янкі Купалы. Здавалася-бы для Міністэрства культуры—чаго прасьцей, адказаць станоўча на гэты запрос, закупіць, калі ня цэлую сэрыю, так хаця-б яе частку.

Але нават афіцыйнага адказу не было, а ў прыватнай гутарцы было адназначна, што купляць творы, дзе нацыяналізм «прэ» праз ўсе шчыліны, няма ніякага сэнсу. Вось і ўся размова. А яна была характэрнай да таго, зусім нядаўняга часу.

Працяг у наступным нумары






Яўген Ціхановіч

# Лісты і вершы Уладзімера Караткевіча




9 апреля 1957 г.

Здорово, парень!

**Ты, однако** же, просто непобедимый в **своей извращённой** лености человек. Я **долго думал над тем**, не написать ли мне тебе ответ **9 апреля 1958 года,** раз ты всё равно отвечаеш **каждый раз через** шесть месяцев, но, наконец, **решил** сжалится, да и то только в силу чрезвычайных обстоятельств. Ты только отвечай мне, всё же, не позже чем через полтора месяца каждый раз, а то я могу и привести в дело свою угрозу. В наказание же за это пока что напишу короткое письмо. Вернее, не в наказание, а просто мне смертельно некогда– ты представляешь, у меня уже целый месяц лежит Бунин и я дочитал только до пятидесятой страницы. В следующий раз напишу больше, а сейчас уж ты меня извини. Зато письмо будет со стихом. Из учителей в школе осталась ...—Гречиха, потом Эренбург, Тихтинский, да вот кажется и всё. Мне, парень, надо сейчас подготовить тескт книги до конца апреля, когда меня вызовут в Минск, да и ещё много таких же дел. Так что сейчас сижу как на горячей сковороде, мечась от одного дела к другому. Критику Берёзкину, которого ругали за меня, надо выразить грандиозное сочувствие, он хороший парень.

Как с регулятаром перегрева, пара, как Муза, как твоё и её здоровье, уехали ли в Винницу?

Пиши обо всём, парень, а я как только буду свободнее-буду отвечать длиннее.

Да, ты слыхал, что в Палесьи найдены грандиозные запасы нефти? Если интересуешся, то напиши, могу написать и подробнее.

Был у мнея из Лапичей на весенние каникулы несколько дней Юрка. Выпивали, толковали и т.д.

Ну вот пажалуй, и всё.
Привет Музе.

Крепко жму лапу.

# Скарга магілёўскага вар'ята

„Бура ў лесе ў Алоўнікава перакліка-
ецца па сіле ўздзеяння з бурай у апош-
нім акце оперы Глінкі „Іван Сусанін"...
У апошнім акце той-жа оперы знамя-
нальны зварот Сусаніна да народнай
песні - і такі ж зварот да народнай песні
мы бачым у сімфоніях Цікоцкага,
творах Аладава і балеце Крошнера
Салавей." /і.г.д./

/Фрагменты з радыёперадачы
„Традыцыі Глінкі ў беларускай
музыке"/.

Я лічыў дагэтуль, што ганьба
Перад кімсьці ўпадаць на калені,
Падчыняць самастойнага майстра
Хоць бы й вялікаму генію.
Матулька! Яны мяне крыўдзяць!
Схапілі, ў пакоі трымаюць!
Лечаць! Даюць снатворнае!
Ў горад гуляць не пускаюць!
Ставяць дурныя пытанні!
Пасялілі з кампаніяй свінскай!
За што?!?! За тое, што слухаў
Я перадачу з Мінска?
А там усе-ж сур'ёзна казалі
Тонам вучоным і хмурым,
Што ў Глінкі і ў Падкавырава
Адная і тая-ж бура!!!

Што чараўніца з „Князь-возера"
Тэта Наіна з „Руслана",
Што Крошнер, Аладаў, Цікоцкі.
Тэта акт апошні „Сусаніна",
Што ў кампазітараў мінскіх,
Якраз як у Глінкі, два вуха,
Што іхнія песні і оперы
Таксама магчыма слухаць,
Што ў музыке беларускай
Працуюць з творчаю мукай
Глінкоўскі і Глінкавыраў,
Глінагнор і нават Глінукас.
Упіхнулі мяне за краты,
Светла засланымі сценамі,
І, напэўна, маюць за гэта
Нават грошы ў кішэні.
Я ж быў эпігонам простым
І неяк, выпіўшы румку,
Спрабаваў у доўгай прамове
Развіць іх творчую думку.
І ўсяго толькі даць збіраўся
У лекцыі звесткі свежыя
Пра ўплыў чарнаморскага флота
На рост грыбоў белавежскіх.
Бо я ўпэўнены зараз,
Пасля той перадачы праклятай,
Што я ўжо не я а Тэта,
Бо ногі такія-ж куртатыя.
Матулька! Яны мяне крыўдзяць!
Дні цягнуцца так тужліва!
Поўня будуць зноў перадачы...
Дзе ж на зямлі справядлівасць!!!

Здорово, парень!

14 мая 1957 г.

Я в прошлый раз получил твоё письмо, «вроде довольно скоро» в ответ на моё, ровно через полтора месяца, но конечно, вовсе не негодую, ибо у меня теперь такое каторжное время, что и читать письма некогда, не то что отвечать на них. Сегодня, например, я ужо проверил сочинения адного класса, диктанты другого класса, немного поработал и написал два письма, а всего ждут ответа восемнадцать писем, ни более ни менее. Так что если ты малость задержишься, я обижаться очень не стану, у меня будет на душе спокойно: «Это он, мальчик-бяка, не отвечает мне, а я паймальчик, я хороший».

Ты прав насчёт «варьята», носом стенку не прошибёшь. И разумеется, твоя правда, что нельзя всё валить на злую волю. Ты ведь марксизм, учил? Значит должен быть последовательным и прийти к выводу: «недостатки системы». И это будет правильно, только надо учесть, что везде существуют люди хорошие и дурные. Первые делают и дурное чуть лучше и потому вредны, вторые и хорошее делают скверным и потому вредны в ещё большей степени.

Как дела у Музы? Ничего не слышно? Только зрелище подобное этому, да ещё первой улыбки того же ребёнка воздерживает меня иногда от черной мысли, что не мешало бы ухнуть в одну точку земли все торпеды, какие есть, и размолотить в куски всю эту изолгавшуюся планету.

Дела у меня обчыные.

Ем картошку.

Читаю Беляева, Конан-Дойла и Сабатини

Слушаю Бетховена (по радио)

Курю «Беломор».

Почти не пью.

Ты однако же нелюбопытен, как всякий инженер. У вас да ещё учёных то, что лежит на соседней полке знаний, то от лукавого или, что ещё хуже, от неинтересно. Вы можете успешно решать вопросы о нефтёаппаратуре, которая «более или менее близко твоему профилю» даже в то время, когда нефть иссякнет по всей земле.

Тут нефть открыли, второе Баку для родины, а он...

Ты прав и в том, что самый подылый народ собралася на Украине, поближе к теплу, чуть меньше в Белоруссии. Сидят на грошовом жалованьи, дрожат за место в конторе в то время когда есть места, где и силушке молодецкой можно развернуться.

Юрка Падво и мне не написал из Лапич, так что взаимно молчим и дуемся.

Ещё одна небольшая новость.

Был на семинаре молодых в Минске, на коей был вызван «для примера» и после него, а также многих приятных встреч и знакомств, 26 апреля был единогласно (даже Крапива поднял руку) принят в члены союза писателей.

Сдал также в издательство книгу, которая выйдет, наверное, в 58 году. Будет она небольшая. Пока что в ней только 40 стихов, может быть потом еще малость добавлю. После приёма устроили грандиозный сабантуй в ресторане «Заря», прошел оный саботаж хорошо, набодались тоже недурственно.

Пишу или вернее, пытаюсь писать сейчас, небольшую повесть, которую хочу послать в «Маладосць» к июльскому номеру. Не знаю, что выйдет. Ближайшие 2 месяца буду работать адски.

Ну жму руку.



Працяг у наступным нумары

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Не кідай, Зьмітрок, гармонік

Сьвятлана Анатольева

Ціха і жалобна ў начным горадзе зьвінела музыка дажджу.

Наш кароткі прыпынак у дарозе Кліўленд—Нью Ёрк канчаўся, і мае спутнікі ўжо дапівалі каву ў адным з прыдарожных рэстаранаў. Я чакала іх і ўслухоўвалася ў начную мэлёдыю ночы. Гучаў хутчэй за ўсё настальгічны паланэз, пад які больш хацелася плакаць, чым танцаваць, каб не Зьмітрок, вясёлы хлапец, аб якіх кажуць: душа любой кампаніі. Каб хоць трохі скараціць час чаканьня, мы размаўлялі аб нечым другарадным, зусім неістотным, пакуль я не пацікавілася:

—Зьмітрок, а як ты стаў кампазітарам?

Ён усьміхнуўся, перапытаў:

—Ты хочаш ведаць, як я стаў вядомым кампазітарам?

І пабачыўшы маё зьдзіўленьне, ад такой вось «сьціпласьці» з энтузіязмам прапанаваў: Давай паеду ў любы каўгас, вёску або ячшэ куды, засьпяваю «Добрай ночы», «Даставай, Язэп, гармонік», «А ў гасьцях» і мяне пазнаюць адразу.

Мабыць, гэта было сапрады так. Зьмітраковыя песьні, што льюцца зь ягонага сэрца у тваё, застаюцца там назаўсёды.

Памятаю, як два гады назад, у ціхі купальскі ранак, адзін з шукальнікаў кветкі-папараці і лепшай долі, узяў у рукі гітару і нягромка засьпяваў

*Ляцяць, ляцяць*
*майго маленства коні, коні,*
*Забудзь маю самоту, надзею не згубі*
*Пад зоркай дабрыні, пад зоркаю Пагоні,*
*Кахай мяне, кахай!*
*Любі, меня любі!*
*Любі,любі, любі!*

Мы моўча пачалі падымацца зь цёплай ад купальскага вогнішча зямлі, адчуваючы, што гэта ня проста песьня, а нешта большае. І зьнікла стомленасьць ад мітусьлівай ночы Яна Купалы. Ад пошуку праўды і сьвету. Наступіла прабуджэньне.

На захадзе дагаралі зоркі, і сярод іх, нам здавалася, ярчэй за усіх гарэла зорка Пагоні. Яна атуляла сваіх, непакорных, ужо прайшоўшых поўны курс мітынговай барацьбы, і пачаткоўцаў, якія таксама ўключыліся ў нашае агульнае змаганьне. І ад таго яркага сьвету зоркі Пагоні пачало разгарацца ўжо патухаючае вогнішча, а разам зь ім і нашыя душы. Імя аўтараў той песьні я не пытала, але запомніла яе простую, кранаючую сэрца мэлёдыю і пранікнёныя словы. У Амэрыцы я даведалася, што аўтарамі «Пад зоркаю «Пагоні» былі кампазітар Зьмітрок Яўтуховіч і паэт Лявон Пранчак.

—Музыкантам я стаў невыпадкова... — перабіў мае ўспаміны Зьмітрок. Мая маці, Тацьцяна Мікалаеўна піяністка, бацька Андрэй Мікалаевіч скрыпач, лаўрэт рэспубліканскага конкурсу 1964 г, дзядзька, Міхаіл Мікалаевіч Яўтуховіч працуе скрыпачом у Менскім камерным аркестры, брат студэнт кансэрваторыі, грае на скрыпцы, жонка музыказнаўца. Музыка ўвесь час гучала у нашай хаце, гучала ва мне. Мне нават сьнілася яна начамі. Быццам-бы я стаю і дырэгую нейкім аркестрам, які выконвае маю музыку, якая ніколі да гэтага раней не прыходзіла да мяне. Раніцою, я ўжо ня мог нічога паўтарыць з таго канцэрту, але праз нейкі час некаторыя

мэлёды тых музычных сноў вярталіся да мяне, знаходзячы сваё адлюстраваньне ў маіх творах.

Я паступіў у 1978 годзе ў Гомельскае музычнае вучылішча, на аддзяленьне тэорыі музыкі. Але было там, ведаеш, неяк сумна, вельмі сухая гэтая навука тэорыя. І я, каб хоць крыху ажывіць яе, разьвесяліць і сябе, і сяброў пачаў пісаць музыку... З тых часоў усё і пайшло.

Паступіў у 1982 г. ў Беларускую дзяржаўную кансэрваторыю, кляс прафэсара Дз. Смольскага, у 1988 да лістапада 1990 г. займаўся ў асістэнтуры-стажыроўцы ў прафэсара Д.Смольскага. У Саюзы кампазытараў уступіў у 1990 г. Спрабаваў пісаць сур'ёзную музыку. Ёсьць у мяне некалькі інструмэнтальных твораў: Канцэрт для скрыпкі з аркестрам, Дывертысмента для камернага аркестра, сюіты для струннага аркестра з саліруючым габоем, Сімфоніі для сімфанічнага аркестра, інструмэнтальныя п'есы для эстраднага аркестра і сінтэзатара, некалькі вакальных цыкляў. Але больш падабалася мне працаваць над песьняй...

Пасьля гэтай размовы ,чытаючы артыкул аб ягонай творчасьці, я даведалася, што ён напісаў сумесна з Лявонам Пранчаком песьні «Добрай ночы», «Мамачка», «Белая раніца», «Чабаровая паляна», «Полацак», «Даставай, Язэп, гармонік», «Пяшчота», «Вочы журбы», «Чырвоны касьцёл», «Віцебскі дождж», «Вось і ўся любоў» і інш. Разам з Віктарам Шніпам—«А ў гасьцях», «Я сёньня вясёлы», «На базары дзядзька» і інш. Зьмітрок паклаў на музыку вершы «Маналог паэта» Янкі Купалы, «Прысяга» Натальлі Арсеньневай, «Лявонае поле» Сяргея Панізьніка і многія- творы іншых беларускіх паэтаў.

Мне прыгадаліся канцэрты, на якіх ён зь сябрамі Мікалаем Скорыкавым, Інай Афанасьевай, Лявонам Пранчаком выступаў ў Амэрыцы. На кожным, дзе прыходзілася яго бачыць, і на XX сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, і на канцэрце ў Кліўлендзе, і ў ААН ён мог захапіць сваёй песьняй аўдыторыю. Прыемна было асэнсоўваць, што ў Беларусі зьявіўся свой нацыянальны кампазытар, які можа перадаць настрой многіх-многіх людзей, іхнія пачуцьці трывогі, радасьці і ...

І зноў ішоў дождж. І зноў быў смутак І ліст, які я атрымала ад яго ў дзень ягонага ад'езду ў Беларусь быў таксама восеньска-журботны. Ад яго веяла нейкай халадячай душу трывогай.

«Пасьпяваў некалькі тыдняў у царкоўным хоры царквы Еўфрасіньні Полацкай (Саўт Рывер), зразумеў, што тое, чым я займаўся — гэта гульня, самаабман. Зь песьняй, з напісаньнем мэлёдыяў і іншым падобным—канчаю. Высылаю табе «Песьню Адраджэньня» — гэта зусім новы, ніколі ня гучаўшы твор, і я, спадзяюся, што ты яго надрукуеш. Гэта мая апошняя песьня....»

З магнітафоннага запісу гучыць Зьмітраковы голас. Мая любімая ягоная песьня.

*Пакуль я вандраваў лісьцё апала,*
*Пустынны лес, нібы душа мая.*
*О, як цябе мне моцна не хапала,*
*Матуля пасівелая мая.*
*Ляцяць, ляцяць майго маленства коні.*
*Забудзь сваю самоту, надзею не згубі....*

Не, я ня веру, што гэта твая апошні твор. І тыя, хто палюбіў твае песьні, хто чакае іх, тасксама, не. І я буду прасіць ў сьв. Еўфрасіньні, каб табе прысьніліся музычныя сны. Няхай яны зноў не даюць пакою тваёй душы.

# Песьня Адраджэньня

*Словы Віктара Шніпа* *Музыка Зьмітрака Яўтуховіча*

Зноў сонца ўзыйшло,
Шчодра заліло
Вечна жывым сьвятлом
Наш бацькоўскі дом.
І абудзіла нас
Сёньня з табой
Песьняю матулінай, сьвятой і маладой.

Час выпаў нам цяжкі,
Толькі не змаўкаць,
Шлях добры трэба нам,
Што вядзе ў храм.
Любім адну цябе
Мы без прымус,
Мужная сьвятая дарагая Беларусь!

Прыпеў:
Засьпявайце песьню разам з намі,
Каб запомніць гэты дзень і сьвята.
Засьпявайце песьню разам з намі,
Панясём яе, нібы штандар крылаты
Па дарозе, як прамень бясконы,
Мы зь песьняй ня будзем сумаваць,
Зь песьняй ня будзем гараваць.
Песьня— наш сонечны палац.
Значыць, мы—дзеці сонца!



Сьпявае Зьміцер Яўтуховіч

# Песьня Адраджэньня



Рухліва, з пачуцьцём













**Прыпеў:**


















# Туды, дзе нашыя карані

Сьвятлана Белая

## Сустрэча трэцяя, або самы памятны дзень падарожжа

Валянтына Ягоўдзік: «Гэта была мая першая паездка ў Беларусь. Мая даўняя мара наведаць Бацькаўшчыну, свой родны кут пасьля 49 гадоў расстаньня, нарэшце, споўнілася.

У час гэтага падарожжа, запомнілася ўсё. Незабыўнымі былі экскурсыі па Менску, Вільні, Полацку, Віцебску. Пабывала я разам з нашай групай у Курапатах і ў Хатыні. Помнікі спаленым вёскам нагадалі мне мае мілыя Конікі . Калі мы ад'язджалі зь іх у час вайны, усё сяло было ў вагні.

Але самае моцнае ўражаньне пакінула паездка на радзіму маіх продкаў. Колькі часу была, не переставала любавацца прыгажосьцю родных мясьцін. Магутныя сасновыя бары, блакітныя вазёры і беластвольныя бярозкі, такія стройныя, гібкія...

Затрымалася я ў сваіх сяброў у Вілейцы. Адным днём паехалі мы ў нашую вёску. Пабачылася з сваімі сваякамі, сяброўкамі. Але пагасьціла тады нядоўга, зноў вярнулася ў Вілейку. Увесь час я хадзіла пад уражаньнем гэтай паездкі, не магла я забыцца пра яе. І ўвесь час мяне цягнула зноў вярнуцца туды. Папрасіла, каб мяне яшчэ раз завязьлі ў Конікі. Прывязьлі.

Абыйшла я нашае сяло ад краю і да краю, пастаяла каля месца, дзе некалі быў наш дом. (Нашая вёска згарэла амаль поўсьцю ў час вайны і толькі часткова адбудавалася). Адразу прыгадалася маё дзяцінства, юнацкія гады. Мае сяброўкі ісваякі падрыхтавалі прыняцьцё. Усе разам сьвяткавалі маё вяртаньне на Радзіму. Сьпявалі песьні, успаміналі маладосьць.

Гэта і быў мой самы памятны дзень падарожжа па Беларусі.



У час сустрэчы ў Коніках. Зьлева направа: Галіна Кудзеля, яе дачка Вольга, Лілія Мандрык, Валянтына Ягоўдзік, Сафія Мікуліч і былая суседка.

# Чатырнаццаць дзён па Беларускаму часу

Кастусь Калоша

28 ліпеня 1992 году нашая група ў складзе 34 асобаў, пераляцеўшы тысячы кіламетраў на самалёце «Беларусь», прызямлілася ў Менску. Першыя ўражаньні ад сустрэчы з Бацькаўшчынай, першыя гутаркі з сваякамі і сябрамі, першыя краявіды Менску—усё гэта ў канцы першага дня здавалася дзівосным сном, аб якім многія з нас марылі ўсё жыцьцё.

На другі дзень пасьля прыезду нас чакала цікавая экскурсыя па Менску. Мы праехаліся вуліцамі і праспэктамі беларускай сталіцы, пабывалі ў музэі старажытнага мастацтва, які адкрыты пры Беларускай Акадэміі навук, наведалі Дзяржаўны Батанічны сад Беларусі. А вечарам, перапоўненыя радаснымі пачуцьцямі, прыехалі ў Беларускае таварыства сьляпых. Нас сустрэлі тры дзяўчыны ў нацыянальных строях, якія прывіталі нас хлебам-сольлю. Старшыня таварыства сьляпых Анатоль Нятылькін, які страціў зрок ў часе вайны, расказаў нам гісторыю стварэньня таварыства, паведаміў сумныя факты статыстыкі. Сёньня ў Рэспубліцы налічваецца каля 20 тысяч сьляпых і людзей зь вельмі абмежаваным зрокам. Бальшыня зь іх асьлеплі ў часе вайны, але ёсьць многа выпадкаў, калі людзі гублялі зрок у выніку вытворчых траўмаў. У таварыстве іх вучаць працаваць у майстэрнях, фабрыках і на сёньняшні дзень працуе каля 6 тысяч асобаў. Анатоль Нятылькін правёў нас у музэй, які працуе пры таварыстве. Загадчыца музэю Ала Іваненка паказала нам у залях музэя рэчы, які зрабілі сябры таварыства. Цяжка было паверыць, што ўсе гэтае вырабілі людзі, якія ня бачаць або амаль ня бачаць. Пасьля наведваньня музэя нас запрасілі на канцэрт, арганізаваны гаспадарамі. Прафэсыйна



Група беларусаў Кліўленду перадае пачкі мэдыцыны для чарнобыльскіх дзяцей.
Зьлева направа: Анатоль і Алена Лукьянчыкі, Сяргей Карніловіч, ?, Леанід Казура, Кастусь Калоша, ?

выступіў аркестр, у якім прыймалі ўдзел і сьляпыя (іх можна было пазнаць, бо перад імі не было нотаў), прыгожа сьпявалі салісты. Цікава было пабачыць бібліятэку для сьляпых, іхнія кніжкі, спэцыяльныя прылады для чытаньня. Вялікай праблемай зьяўляецца тое, што ў Беларусі няма друкарні для сьляпых, а кніжкі друкуюцца ў Пецярбургу ў расейскай мове. Заключнай часткай гэтай сустрэчы было прыняцьцё, у час якога мы абмяняліся думкамі. Ад нашай групы выступілі Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Анатоль Лукьянчык, Вольга Лукашэвіч. Яны віталі супрацоўнікаў таварыства, усіх хто ўкладае столькі ахвярнай працы, падкрэсьлілі, што дзяржаўныя ўлады павінны больш памагаць таварыству. Далей мы прасьпявалі некалькі беларускіх песьняў і ўсе разам «Люблю наш край». Мы падзякавалі кіраўніцтву за добры прыём і злажылі ахвяры на патрэбы таварыства: А.Лукьянчык 1000 даляраў, а рэшта—500. Аб гэтым спатканьні шырока паведамляла беларуская прэса, фрагмэнты гэтай сустрэчы былі паказаны па беларускаму тэлебачаньню.

На наступны дзень, у сераду раніцай, мы паехалі ў Курапаты. Па дарозе наш праваднік Алесь Лукашук, на добрай беларускай мове падрабязна расказаў нам гісторыю Курапатаў, поўная праўда аб якіх яшчэ нераскрытая. Тут, у Курапатах стаіць вялікі крыж. Каля яго дошка з надпісам «Пакутнікам Беларусі». Мы ўсклалі кветкі на магілу, а далей адправілі паніхіду, якую служыў а. Янка Шыкалюк з Ракфорду, і сьпяваў хор царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленьдзе. Далей мы пабачылі магілкі, якія можна пазнаць толькі па ўпадзінах, бо яны зарасьлі хмызьняком. Гэта зрабіла вельмі сумны настрой. Экскурсыя ў Курапаты навяла на думкі, што яшчэ многа трэба зрабіць, каб увекавечыць памяць Курапатаўскіх ахвяраў. Напачатку трэба правесьці добры даезд да галоўнай дарогі, якая праходзіць побач. Пабудаваць капліцу, дзе можна маліцца, устанавіць дошкі зь імёнамі пакутнікаў камуністычных уладаў на ўзор, як гэтае зроблена ў Хатыні, каб усе наведвальнікі ведалі, што такое Курапаты.

Далей нашую групу чакала паездка ў Хатынь. Тыя, хто ўжо бываў на Бацькаўшчыне, адведалі раней гэтае журботнавядомае месца, але для пераважнай большасьці нашай групы Хатынь неабходна было пабачыць. У гэты-ж дзень група з 6 асобаў наведала амэрыканскую амбасаду ў Менску. Амбасадара Дэвіда Суорца не было, ён знаходзіўся у Вашынгтоне. Насжа прыняла ягоная заступніца, консулка па палітычных і эканамічных справах Дэзірэ Мілікан. К. Калоша, які выступіў ад групы, праінфармаваў, што беларусаў прыехала з Амэрыкі 34 асобы, усе грамадзяне ЗША, беларускага паходжаньня, дзьве асобы, народжаныя ў ЗША. Бальшыня беларускай групы першы раз наведаваюць сваю Бацькаўшчыну, якую пакінулі яшчэ ў 1944 г.. Беларусы захацелі пабачыць сваіх родных, сваякоў і пры гэтым наведаць амбасаду. К.Калоша зьвярнуўся з просьбай, каб амэрыканскі консул па магчымасьці памагаў Беларусі ў рашэньні эканамічных праблемаў,у навязаньні добрага супрацоўніцтва паміж урадамі, а таксама па магчымасьці дапамагчы фінансава, паколькі сёньня ў Беларусі вельмі многа праблемаў, і ў першую чаргу Чарнобыль.

Консулка Мілікан падзякавала за візыт й дадала, што яна не змагла прыняць усіх. Яна паведаміла, што неўзабаве амэрыканская амбасада пачне працаваць поўнасьцю, і за візамі ня трэба будзе езьдзіць у Мас-

кву, а таксама паведаміла, што хутка адчыніцца беларуская амбасада ў Вашынгтоне. Сяргей Карніловіч, Анатоль Лукьянчык запыталіся адносна залажэньня прадпрыемстваў ў Беларусі. Консулька адказала на гэтыя пытаньні і дала інструкцыю з тлумачэньнем. На разьвітаньне нашая дэлегацыя зрабіла фатаграфію перад будынкам Амэрыканскай амбасады ў Беларусі.Мы падпісалі й уручылі Дэзірэ Мілікан кніжку аб беларускай калёніі ў Кліўлендзе, выдадзеную Кліўлендзкім унівэрсытэтам. Консулка добра гутарыць на расейскай мове, а працаўніцы амбасдады, маладыя дзяўчаты, размаўляюць па-беларуску.

Завяршаючай часткай праграмы гэтага дня было наведваньне Дома літаратараў Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Будынак Дома літаратараў даволі вялікі. Тут разьмяшчаюцца адміністрацыйныя пакоі, канфэрэнцзаля, кавярня (кафэ), вялікая заля са сцэнай для пастановак,канцэртаў. Тут адбыўся сход, які адкрыў старшыня Бацькаўшчыны Аўген Лецка. Ад ураду Рэспублікі Беларусь прысутнічалі: заступнік прэм'ерміністра В.Кебіча М.Дзямітрук, міністр замежных справаў П. Краўчанка, шэф беларускай місіі пры ААН Г.Бураўкін. На гэтую сустрэчу прыйшлі прадстаўнікі БНФ, Таварыства Беларускай Мовы, клюбу «Спадчына», Згуртаваньня Беларускіх вайскоўцаў, Беларускай Сялянскай партыі, Хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці.

Напачатку сустрэчы слова далі гасьцям з Амэрыкі. Кастусь Калоша коратка заначыў, што беларусы якая прыехалі ў Беларусь, належаць не да эканамічнай, а да палітычнай хвалі эміграцыі, таму яны заўсёды дзейнічалі ў гэтым кірунку. Найперш яны заарганзаваліся самі, залажылі беларускія арганізацыі, асяродкі, беларускія цэрквы, вывучалі беларускую мову, арганізавалі мастацкія гурткі. Асноўнай мэтай эміграцыі было пераканаць урады вольнага сьвету, што Беларусь мусіць быць вольнай і незалежнай дзяржавай. Гэтую думку беларусы Замежжа пачыналі прапагандаваць ад мясцовых кіраўніцтваў гарадоў, штатаў, фэдэральных кангрэсмэнаў, сэнатараў і да прэзыдэнтаў данных краінаў. Кожны год беларусы сьвяткавалі ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, у час якіх дзяржаўныя ўрадаўцы, уключаючы прэзыдэнтаў краінаў, дзе пражывалі беларусы, прысылалі свае праклямацыі. К.Калоша выказаў удзячнасьць таварыству «Бацькаўшчына», якое выставіла запросіны і заапякавалася беларускай групай.

Пётр Краўчанка, які выступіў, праінфармаваў аб апошніх падзеях на Бацькаўшчыне, аб адкрыцьці замежных амбасадаў у Беларусі і беларускіх амбасадаў у замежных краінах, расказаў аб скліканьні зьезду беларусаў сьвету ў Менску ў 1993 годзе. З прамовамі таксама выступілі прадстаўнікі ад дэмакратычных партыяў. Пасьля афіцыйнай часткі быў выбраны камітэт сустрэчы, у які ўвайшлі Васіль Быкаў, Пётр Краўчанка і па адной асобе ад кожнай партыі.

Пасьля выбараў адбыўся канцэрт. Але напачатку яго К.Калоша коратка расказаў аб кліўлендзкім хоры «Васілёк», некаторыя ўдзельнікі якога прыехалі на Бацькаўшчыну. Пад гукі «Люблю наш край» (акампанімет Фёдара Паўлаўца) выходзілі на сцэну ў нацыянальных строях харысты. Апошняй выйшла салістка Вольга Лукашэвіч, якая прывітала гасьцей хлебам-сольлю. «Васількі» прасьпявалі песьні «Я ад Вас далёка», «Поле», «За ракой за рэчкаю», «Роднае слова», якія былі вельмі цёпла ўспрыняты слухачамі.

Далей канцэрт працягвалі менскія

прафэсыйныя артысты й аматары. Тацьцяна Мархель паказала сцэнку з рэлігійнага жыцьця беларусаў. Адзін народны калектыў паказаў жартоўную пастаноўку з казой. Канцэрт прайшоў добра й для нас было вельмі цікава пабачыць і пачуць прыгожае выкананьне з гумарам і жартамі. Многія, калі глядзелі гэты канцэрт плакалі .

У канцы сустрэчы адбылося прыняцьцё. У кавярні былі накрытыя сталы, на якіх стаяла смачна прыгатаваная ежа. Былі прамовы, тосты за адраждэньне Беларусі, за супрацоўніцтва з эміграцыяй. Ад нашай групы выступалі С. Карніловіч, В.Лукашэвіч. Сьпявалі беларускія песьні, а пасьля пад акардыён зладзілі танцы. Імпрэза ў Доме літаратараў была для нас вельмі цікавая й карысная. Мы мелі мажлівасьць пазнаёміцца з паэтамі, пісьменьнікамі, артыстамі.

У чацвер, раніцой, мы аўтобусамі паехалі ў Вільню, каб пабачыць гэты старажытны беларускі горад, адведаць нашых суродзічаў. Каля Вострай Брамы зь беларускім сьцягам і плякатамі нас спаткалі беларусы Вільні. Спачатку нас прывітаў Хведар Нюнька, сябра рады таварыства «Бацькаўшчына» ў Вільні, затым старшыня Рады Беларускіх Згуртаваньняў у Летуве Валентын Стэх. Нашым гідам быў вядомы Лявон Луцкевіч, які вельмі добра і падрабязна расказваў нам гісторыю Вільні і паказваў будынкі, якія захаваліся з нашаніўскай пары. Бачылі мы мясьціны, дзе разьмяшчаліся былыя Віленская Беларуская гімназія, друкарня Мамонічаў і Фр.Скарыны, пабачылі мы цэрквы, помнік Францішка Скарыны, адведалі магілу Кастуся Каліноўскага, майстэрню беларускага мастака У.Кузьменкі.

Таксама мы прынялі ўдзел ў адкрыцьці на віленскіх могілках помніка Францішку Аляхновічу—беларускаму пісьменьніку й драматургу.Затым наведалі беларускі кіёск, дзе закупілі багата беларускіх сувэніраў. Гэты кіёск, які раней фінансаваў аддзел БАЗА у Кліўлендзе, дае цяпер беларускай арганізацыі ў Вільні фінансавую дапамогу. Пабачылі мы Дом прафсаюзаў, дзе БНФ ладзіў свой першы зьезд. Тут-жа адбыўся сход, на якім абгаварвалася жыцьцё беларусаў Вільні. Пасьля паседжаньня быў арганізаваны канцэрт, на якім народны артыст Леанід Мурашка выканаў некалькі беларускіх песьняў. Па вяртаньні ў Беларусь пабачылі мы 3 будынкі, якія летувіскі ўрад абяцаў даць беларускай арганізацыі. Зь цягам часу тут будзе грамадзка-культурны цэнтр беларусаў Летувы і беларуская друкарня. Падарожжа ў Вільню закончылася вячэрай у рэстаране, пад час якой выступілі С.Карніловіч, К.Калоша, В. Лукашэвіч. Яны віталі беларусаў Вільні й іх арганізацыі за вялікую ахвярную працу і дзякавалі за добрае й шчырае прыняцьцё. Далей нас чакала дарога на Полацак.

У пятніцу, 31ліпеня раніцай у гатэлі нас спаткалі актывісты таварыства «Бацькаўшчына»: Алесь Аркуш (Казак) пісьменьнік, Ірэна Жэнасек пісьменьніца, Навум Гальпэровіч, паэт. Найперш мы наведалі Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр. Тут нас спаткаў япіскап Полацкі Дзьмітры. Ён павёў нас у капліцу сьв. Еўфрасіньні Полацкае, дзе мы пакланіліся мошчам сьв. Еўфрасіньні. Япіскап гаварыў на расейскай мове, але дадаў, што хаця цяпер бальшыня беларусаў гутарыць расейскай мовай, трэба падрыхтоўваць людзей, каб перайсьці на беларускую мовах у цэрквах. Япіскап Дьзмітры адзін з тых, хто стараўся ўвесьці Еўфрасіньнеўскі крыж у сваёй юрысдыкцыі, але людзі пакуль што не разумеюць важнасьці гэтага ўвядзеньня, і просяць пакінуць у цэрквах старыя крыжы, але пачынаюць ставіць еўфрасіньнеўскі крыж на



Каля Спаса—Прэабражэнскай (Еўфрасіньнеўскай) царквы з япіскапам Дзьмітрыям.

новых цэрквах. Ён расказаў пра рамонт будынкаў царквы, пакзаў нам цёплую царкву, якая ўжо атрамантаваная. Цікавым было тое, што рамантаваць цэрквы прыязджаюць вернікі ня толькі зь Беларусі, але зь іншых краінаў. Для нас прыемнай нечаканасьцю было пабачыць пры манастыры амэрыканскіх скаўтаў, якія дапамагалі тут ужо 3 тыдні. Аказалася, што гэтыя маладыя людзі прыехалі з пад Нью Ёрку. Усе яны праваслаўныя, грэцкага паходжаньня. Япіскап Дзьмітры запрашаў нас прыняць удзел у сьвяткаваньні 1000-годзьдзя заснаваньня Полацкай япархіі.



У Спаса-Прэабражэнскай царкве.

Заканчэньне ў наступным нумары

# Дзень Слуцкага паўстаньня— у Беларусі

Анатоль Белы

Яшчэ ў сакавіку 1992 г.кіраўніцтва клюба «Спадчына» зьвярнулася праз беларускую прэсу да творчай інтэлігенцыі і грамадзкасьці Беларусі прыняць удзел у сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну і стварэньні помніка героям Слуцкага паўстаньня. Так упершыню за 72 гады была агалошана ідэя сьвяткаваньня дня памяці слуцкіх змагароў, ідэя, якая яшчэ некалькі гадоў назад лічылася ня толькі неажыцьцявімай, але і крамольнай. Гэтая ідэя прывяла да стварэньня аргкамітэту па адзначэньню дня Збройнага чыну, у які ўвайшлі прадстаўнікі БНФ «Адраджэньне», Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў, розных дэмакратычных партыяў і арганізацыяў (ад клюба «Спадчына» ў яго увайшоў Аўген Калубовіч), і самога сьвяткаваньня 72-х угодак Слуцкага паўстаньня, якое адбылося ў апошнія лістападаўскія дні ў Менску, Слуцку, Семежава.

Але аб усім гэтым па парадку.

## 20 лістапада

Клюб «Спадчына» правёў у Доме літаратараў вечарыну «Ушанаваньне памяці Слуцкага збройнага чыну», на якой сабралося многа менчукоў. На вечарыне выступіў ганаровы сябра клюбу «Спадчына» доктар гістарычных навук, прафэсар Анатоль Грыцкевіч. Ён падрабязна расказаў аб падзеях 1920 году ў Слуцку, аб мужнай барацьбе случчакоў за інтарэсы Беларускай Народнай Рэспублікі, адказаў на шматлікія пытаньні слухачоў. Вечарына клюбу «Спадчына» стала першым у гісторыі Беларусі мерапрыемствам па адзначэньню дня Слуцкага паўстаньня.

## 27 лістапада

У Менску, у 12 гадзін адбылося ўскладаньне сымбалічнага вянка да дома Эдгара Вайніловіча, аднаго з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня. (Плошча Незалежнасьці, 19). У доме Вайніловіча ў Слуцку 14-15 лістапада адбылося паседжаньне Рады Случчыны, якая прыняла рашэньне аб незалежнасьці Случчыны. У цэнтры вянка медная дошка з выграваным тэкстам аб гістарычных падзеях, якія адбыліся ў Слуцку 14-15 лістапада.

А 3 гадзіне па поўдні у Доме літаратара адбылася навукавая акадэмія. З галоўным дакладам выступіў Анатоль Грыцкевіч, які расказаў аб змаганьні случчакоў. З рэфэратам «Адлюстраваньне Слуцкага паўстаньня ў эміграцыйным друку» (на прыкладах твораў Н. Арсеньневай, М.Кавыля, Я.Золака, А. Змагара) выступіў Алесь Бялецкі. Ганна Сурмач распавядала пра архівы слуцкага паўстаньня, якія нядаўна знойдзены ў фондах КДБ. Слухачы зь цікавасьцю выслухалі і іншыя даклады, якія адлюстройваюць гісторыю змаганьня случчакоў, нявядомыя старонкі нашай нацыянальнай гісторыі.

У палове сёмай у фае Дома літаратараў адбыўся вернісаж выстаўкі супалкі «Пагоня», прысьвечанай Слуцкаму паўстаньню і Случчыне. Цікавыя творы прадставілі Уладзімір Сулкоўскі (партрэт кіраўніка слуцкага паўстаньня, старшыні Рады Случчыны,

адваката Ўладзіміра Пракулевіча), Леанід Шчамялёў («Генерал Булах—Булаховіч»). Уладзімір Басалыга прадставіў серыю архітэктурных помнікаў Случчыны, якія былі зруйнаваныя ў час панаваньня бальшавізму. Алесь Марачкін вынес на суд гледача вобразы князя Вітаўта і Антона Луцкевіча. Супрацоўнікі архіваў прадставілі подлінныя дакумэнты, якія адлюстроўвалі ход падрыхтоўкі і падзеяў слуцкага паўстаньня.

Пасьля агляду выстаўкі усе перайшлі ў вялікую залю, дзе адбыўся ўрачысты сход і мастацка-публіцыстычная вечарына «Шляхам волі». Вечар адкрыў народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў. Ягоная прамова як і заўсёды напоўніла душы беларусаў моцнымі патрыятычнымі пачуцьцям. З словам пра Слуцкі Збройны чын выступіў Зянон Пазьняк. Былі зачытаны тэлеграмы, якія прыслалі Прэзыдыюм Рады БНР, Беларускі Кангрэсавы Камітэт у Амэрыцы, БАЗА, часопіс «Полацак» і іншыя арганізацыі і асобы беларускага Замежжа. З сваімі вершамі выступілі Рыгор Барадулін і Віктар Шніп. Вершы Натальлі Арсеньневай, Міхася Кавыля, Алеся Змагара, Янкі Золака, Алеся Салаўя выканалі маладыя артысты. Зь цікавай праграмай выступіў хор філармоніі «Унія», аматарскі калектыў «Выбранецкія шыхты» зь педінстытута й іншыя аматарскія калектывы й барды. Добрым падарункам стала прэм'ера песьні на словы Булах-Булаховіча.

## 28 лістапада

А 9 гадзіне з плошчы Незалежнасьці адыходзіў картэж аўтобусаў, легкавых машын. У аўтобусе, якім ехалі сябры клюбу «Спадчына», спадчынцы ўсю дарагу сьпявалі песьні. Калі пад'язджалі да Слуцка Аўген Гучок і Анатоль Грыцкевіч, ураджэнцы Случчыны, пачалі расказваць пра мясьціны, адкуль паходзілі іхнія продкі.

Першым прыпынкам удзельнікаў сьвяткаваньня было Семежава, мястэчка, дзе стаяў штаб слуцкай брыгады. Ля школы, (а раней тут была царква, у якой хавалі забітых удзельнікаў паўстаньня) усе мы выстраіліся ў калёну і пад сьцягамі і штандарамі пайшлі на плошчу, дзе быў устаноўлены 5-мятровы драўляны крыж, з надпісам «Змагарам за Бацькаўшчыну. Слуцк. лістапад-снежань 1920».

Пасьля асьвячэньня крыжа адбыўся мітынг, на якім выступілі краязнаўцы Семежава і Слуцка, Зянон Пазьняк, прадстаўнік ад Беларускай Сялянскай партыі сп.Лунін, а таксама беларускія вайскоўцы. Затым адбылася паніхіда, якую служылі: ад праваслаўных а. Георгі Латушкін, ад грэка-каталікаў а. Ян Матусевіч, рэфарматар Лявон Ліпень прамовіў казань ад імя сваёй кальвінісцкай супалкі.

Затым паехалі ў Слуцак. У старажытнай драўлянай царкве Міхаіла Архангела адбылася паніхіда па загінуўшых у часе Слуцкага паўстаньня. Пасьля яе а пятай гадзіне ў Доме культуры адбыўся ўрачысты вечар, які адкрыўся нацыянальнай песьняй-гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». З прамовай выступіў Зянон Пазьняк, падпалкоўнік Статкевіч, ураджэнцы Случчыны Анатоль Грыцкевіч, Аўген Гучок, Уладзімір Басалыга. Былі зачытаны прывітальныя тэлеграмы, якія даслалі беларускія арганізацыі Замежжа, а затым адбыўся канцэрт, у якім прагучалі патрыятычныя вершы і песьні. На завяршэньні канцэрта хор «Унія» выканаў гімн «Магутны Божа».

На гэтай урачыстай ноце і закончылася першае сьвяткаваньне ўгодак Слуцкага паўстаньня на Бацькаўшчыне. Дзень, які пасьля 72-х гадовага забыцьця, зноў вярнуўся ў Беларусь.

# Балада Слуцкага паўстаньня

Віктар Шніп



У маскаля ў крыві рука,
У маскаля крывавы штык.
Ён — бальшавік і ён чужы,
Баіцца нашага штыка.
І бальшавіцкі д'яблаў крык
Ляціць зь бязбожнае душы.

Паўстаньце ўсе! Ён—азіят,
І ён са зборяю—вар'ят,
І ён не дасьць жыцьця, ён сам
Спаліў свой дом і божы Храм.
А на чужой зямлі—ён пан,
Бо зброя ёсць , а так—балван.
Не працаваць, адно забіць,
Вантробы спіртам апаліць.
І разбурыць, і зруйнаваць,
Цябе купіць, сябе прадаць.

Паўсталі ўсе па-над пятлёй,
Паўсталі ўсе па-над крывёй,
І білі, білі маскалёў,
Што тут шукалі халуёў,

У маскаля ў крыві рука,
У маскаля крывавы штык,
Ён бальшавік і ён, чужы,
Ён знае вастрыню штыка.
І над зямлёй ягоны крык
Зь бязбожнай і гнілой душы.

Крывёю поле зацякло,
І ў неба вогнішча плыло.

# Афіцэрам войска БНР

Віктар Шніп



Мікола Дзямідаў, заснавальнік Збройных Сілаў БНР ў Горадні

Вы ўстаньце зь нябыту, спадары-афіцэры,
І мяне расстраляйце за маўчаньне, спакой,
І за тое, што я гэтулькі часу ня верыў,
Ні ў Бога, ні ў д'ябла, а ўладзе чужой.

Не счарнеліся вашыя з Пагоняй пагоны,
Нібы сонца і стужкі ў пакутнай зямлі...
Бальшавіцкая шашка бліскавіцай шаленай
Адбірала жыцьцё і забірала палі.
На якіх вы ўзрасталі, спазнаваючы Волю.
Вас нямнога было, і вас ня знае народ.
Ды мы вашай крыві не забудзем ніколі:
Ні праз пяць, ні праз дзесяць, ні праз тысячу год.

Беларускага войска залатыя пагоны
Родных рэчак, азёр вы залочыце дно.
Колькі год мы трывалі ў бальшавіцкім палоне
І самоту па Волі залівалі віном.

Дык устаньце зь нябыту, спадары-афіцеры!
Нам не ўстаць аніколі з пакутнай зямлі...
Чую голас зь нябыту над прастораю шэрай,
Дзе мы столькі гадоў, быццам нямыя жылі

## Дзень Удзячнасьці

У беларусаў Кліўленду стала традыцыяй адзначаць супольным абедам нядзелю перад амэрыканскім сьвятам Днём Удзячнасьці, які сьвяткуецца на амэрыканскай зямлі з 1621 году. У гэтым годзе Дзень Удзячнасьці сьвяткаваўся ў парафіі Жыровіцкай Божай Маці 22 лістапада. Айцы Міхась і Якуб пасьля сьв. Літургіі адслужылі малебен. Затым ў падцаркоўнай залі, дзе сабралося каля 100 асобаў, яны благаславілі ежу, прыгатаваную аддзелам Беларускага жаночага згуртаваньня. Дзень Удзячнасьці гэта сьвята, якое амэрыканцы пераважна сустракаюць сем'ямі. За тысячы кіламетраў прыязджаюць дзеці да бацькоў, каб разам адсьвяткаваць гэты дзень, падзякаваць Бога за міласэрнасьць і дабрабыт. Па шчасьліваму супадзеньню, зь Беларусі, з Стаўбцоў прыехалі да Янкі Каваленкі ў гэтыя дні ягоная сястра Фаня і пляменьніца Соня. 47 гадоў мінула, як Янка расстаўся зь сястрой, ён не спадзяваўся на спатканьне зь ёй. Але сустрэча адбылася. Завіталі да Янкі Каваленкі сваякі, абнадзеялі, і восень для яго ў вясну ператварылі. Парафіяне шчыра віталі сястру Фаню і пляменьніцу Соню за супольным беларускім сталом і зычылі ім новай сустрэчы зь Янкам на роднай беларускай зямельцы.

## Дзень Слуцкага паўстаньня

і акадэмію, прысьвечаную 72 угодкам Збройнага чыну ладзіў Кліўлендзкі аддзел Беларускіх вэтэранаў 29 лістапада. У царкве Жыровіцкае Божае Маці парт. Міхась Страпко зь ераманахам Якубам адслужылі сьв. Літургію і паніхіду па слуцкіх змагарах. Пасьля паніхіды і абеду Кастусь Калоша адкрыў акадэмію. Адсьпявалі амэрыканскі гімн. Тацьцяна Кананчук з Ірынай Трацьцяк (Врэціч) склалі вянок на сымбалічную магілу герояў, а ўдзельнікі акадэміі адсьпявалі «Сьпі пад курганам герояў».

Міхась Белямук коратка прадставіў гісторыю Слуцкага паўстаньня і паведаміў, што ў Беларусі выбухнулі паўстаньні ў паветах Горацкім, Рагачоўскім, Быкаўскім, Чэрыкаўскім, Гарадоцкім, Полацкім, Віцебскім, Веліжскім, Лепельскім, Сеньненскім, Аршанскім, і спэцыяльным загадам у 1921 г. у Беларусі было ўведзена ваеннае становішча. Пачаліся жорсткія расправы з паўстанцамі. У адной Меншчыне за 20 дзён чэкісты расстралялі 300 асобаў, у Ігуменскім павеце ў працягу 2 месяцаў расстралялі 560 чалавек. Старшыня ЧК Якаў Ольскі запоўніў 30 вагонаў з случчакамі, адправіў іх ў Вологду, у жнівені 1921 г.

Дакладчык паведаміў, што ў гэтым годзе 72 гадавіну Слуцкага паўстаньня адзначалі ў Беларусі й падрабязна расказаў аб сьвяткаваньні ( гл. бачынкі 60-61) Закончыў М.Белямук словамі: «Кроў, пралітая беларускімі патрыётамі, не прапала, а парадзіла маладых змагароў, Беларусь будзе жыць!»

Мастацкую частку надзвычай удала падрыхтавала Вольга Лукашэвіч. Яна ўпляла ў праграму канцэрту беларускія вершы. Хор «Васілёк» пад яе кіраўніцтвам і акампанімэнт Вольгі Дубаневіч выканаў вяночак песьняў «Слуцкія ткачыхі», «Поле», «Я ад вас далёка». В.Лукашэвіч і Л. Блізьнюк прасьпявалі дуэтам «Палескія прасторы». Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Ны выйдзем шчыльнымі радамі» закончылася акадэмія 72 угодак.

